наша
# свабода

№28(255) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

13 САКАВІКА
2002 году
СЕРАДА

Адрас: 220123, г.Мінск, а/с 103

тэл. 210-02-53, факс 210-02-54

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by

http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ

## Заўтра – прысуд «групе Ігнатовіча»

Прысуд па крымінальнай справе «групы Ігнатовіча» будзе абвешчаны 14 сакавіка.

Былыя афіцэр спецпадраздзялення МУС Беларусі «Алмаз» Валерый Ігнатовіч, баец гэтага ж падраздзялення Максім Малік, курсант Акадэміі МУС Аляксей Гуз, а таксама двойчы судзімы Сяргей Савушкін абвінавачваюцца ва ўчыненні шэрагу цяжкіх злачынстваў — забойствах, разбоі і выкраданні людзей. В.Ігнатовіч і М.Малік, у прыватнасці, абвінавачваюцца ў выкраданні аператара *ОРТ* Дзмітрыя Завадскага, які знік без вестак 7 ліпеня 2000 году, жорсткім забойстве азербайджанскай сям'і ў Мінску і многіх іншых злачынствах. Абвінавачаныя катэгарычна адмаўляюць сваю віну. Суд вёў суддзя Мінскага абласнога суду Аляксандр Сіманаў, слуханні праходзілі ў будынку Вярхоўнага суду Беларусі.

З заклікам не прымяняць да чатырох абвінавачаных па гэтай справе пакаранне смерцю звярнулася да ўладаў Беларусі праваабарончая арганізацыя «Міжнародная амністыя». Праваабаронцы лічаць, што ў гэтай справе вельмі шмат няясных фактаў, якія так і не былі ўстаноўлены падчас суду, а значыць, прымяняць тую крайнюю меру пакарання, як расстрэл, да абвінавачаных недапушчальна, бо гэта не дазволіць у далейшым устанавіць ісціну.

**Генадзь БАРБАРЫЧ**

# Дзе Лукашэнка?

*У панядзелак прэс-служба кіраўніка дзяржавы паведаміла, што Аляксандр Лукашэнка сыходзіць у кароткатэрміновы адпачынак, які працягнецца да 18 сакавіка. Беларускі кіраўнік знаходзіцца па-за межамі нашай дзяржавы – у Аўстрыі.*

Нечаканы ад'езд А.Лукашэнкі ў адпачынак пакідае поле для розных чутак і домыслаў. Як і любы іншы чалавек, кіраўнік краіны, пэўна, мае права адпачываць. Аднак момант зараз не самы лепшы. Учора ў Беларусь прыязджаў прэм'ер-міністр Расіі Міхаіл Касьянаў. Ён браў удзел у паседжанні Савету міністраў гэтак званай Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі.

**Першая версія**: не вельмі прыязныя асабістыя стасункі паміж Аляксандрам Лукашэнкам і Міхаілам Касьянавым. Занадта розныя падыходы да пытанняў пабудовы Саюзнай дзяржавы ўжо неаднойчы вылiваліся ў адкрытае супрацьстаянне. «Ідэаліст» Лукашэнка цвердзіць пра палітычную інтэграцыю – з абраннем саюзнага прэзідэнта і парламенту, стварэннем Канстытуцыі і дзяржаўных сімвалаў. «Прагматык» Касьянаў увесь час пытаецца: «А што мы будзем з гэтага мець?» і пераводзіць стрэлкі на эканоміку.

Беларускі кіраўнік некалькі разоў публічна наракаў на «нежаданне» расійскага прэм'ера дапамагаць справе аб'яднання і нават скардзіўся на яго Уладзіміру Пуціну. Цяпер жа, калі Міхаіл Касьянаў прыехаў у Мінск абмяркоўваць праблемы саюзнага бюджэту і сумеснага Канстытуцыйнага акту, ягоны ідэйны апанент дэманстрацыйна ўхіліўся і ад перамоваў, і ад сустрэчы.

Але ж уцякаць са сваёй краіны з такой прычыны – нонсэнс нават для Лукашэнкі.

**Другая версія** нечаканага адпачынку, якую нам не змаглі пацвердзіць – але і абвергнуць таксама – гэта хвароба. Радыё «Свабода» паведаміла ў панядзелак, спасылаючыся на неафіцыйныя крыніцы, нібыта Аляксандр Лукашэнка пакутуе на моцныя галаўныя болі (іншыя крыніцы паведамляюць пра сур'ёзныя праблемы з горлам). Ні беларускія, ні расійскія медыкі не могуць яму дапамагчы, і таму патрэбная кансультацыя замежных адмыслоўцаў.

*Заканчэнне на стар.3*



Тры прэзідэнта на лыжнай прагулянцы

## Саюзны візіт

### *«Беларускую мадэль эканомікі» падрыхтавалі да пахавання*

*Учора Мінск наведаў старшыня ўраду Расіі Міхаіл Касьянаў. Ён прыехаў, каб узяць удзел у паседжанні Савету міністраў гэтак званай Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі. Міхаіла Касьянава прымаў ягоны калега Генадзь Навіцкі – Аляксандр Лукашэнка цяпер у адпачынку.*

У парадку дня стаяла больш за дзесятак пытанняў, асноўныя з якіх – праблемы фармавання саюзнага бюджэту на 2002 год і падпісання Канстытуцыйнага акту Саюзнай дзяржавы.

Як заявіў учора Міхаіл Касьянаў, вельмі істотнай тэмай для абмеркавання ён лічыць прагноз сацыяльна-эканамічнага развіцця Саюзнай дзяржавы на 2002 год і асноўных параметраў развіцця на перыяд да 2004 году. «Трэба разумець, як рушыць да адзіных прынцыпаў фармавання сацыяльна-эканамічнай палітыкі», – сказаў ён. Па словах старшыні расійскага ўраду, абедзвюм краінам неабходна вызначыцца, як праводзіць сумесную макраэканамічную палітыку, якія мець тэмпы росту, як уводзіць адзіную валюту і г.д.

*Заканчэнне на стар.3*




# Не заплаціш – не паедзеш

### *«Хуткай дапамозе» патрэбная фінансавая дапамога*

Два дні страйкавалі кіроўцы «хуткіх дапамогаў» упраўлення аховы здароўя Магілёўскага аблвыканкаму. 7 сакавіка стыхійны страйк скончыўся перамогай – 100-працэнтнай выплатай заробкаў за студзень. Аднак сітуацыя пагаршаецца: наперадзе – канец сакавіка, а грошы не выплачаныя яшчэ за люты. Таму магілёўцы могуць зноў апынуцца без тэрміновай медычнай дапамогі. І не толькі магілёўцы...

6 і 7 сакавіка каля 50 вадзіцеляў шпіталю «хуткай дапамогі» ў Магілёве правялі страйк. На крайнюю меру пратэсту вадзіцеляў штурхнулі блізкія святы, а сёлета яны яшчэ не атрымлівалі заробкаў. Адміністрацыя шпіталю аўральным чынам вывела на працу 20 машынаў і 5 брыгадаў кардыёлагаў ды рэаніматараў – з 50 аўтамабіляў, якія шпіталь арандуе ў мясцовай аўтабазы.

Са студзеня бягучага году вадзіцелі «хуткай дапамогі» не бачылі заробкаў. Цярпенне лопнула напярэдадні свята 8 сакавіка – і 6 сакавіка раніцой кіроўцы арганізавалі стыхійны страйк. Пасля абеду вадзіцелі выйшлі на працу, паверыўшы абяцанням начальніка ўпраўлення аховы здароўя Магілёўскага гарвыканкаму Уладзіміра Пячкоўскага выдаць заробкі ў гэты ж дзень.

Аднак абяцанага вадзіцелі не дачакаліся, таму наступным днём, 7 сакавіка, яны ізноў спынілі працу і толькі ў канцы дня ўсё ж атрымалі свае заробкі. Старшыня прафкаму прафсаюзу работнікаў аховы здароўя Генадзь Зайцаў адзначае беспрэцэдэнтнасць прынятых вадзіцелямі захадаў. «За апошнія 15 гадоў такога ў нас яшчэ не было. Калі фінансавыя праблемы ўзнікалі ў канцы году, – гэта зразумелая рэч. Але каб на пачатку году – гэта нонсэнс. Людзей, якія са студзеня не бачылі «жывых» грошай, можна зразумець. Асабліва калі ўзяць пад увагу, што ўсе яны – мужчыны, а на носе было 8 сакавіка, – цярпенне ў людзей лопнула. Апрача таго, яны добра ведаюць, што медыкі атрымалі заробкі – гэтая акалічнасць абвастрыла сітуацыю да крайнасці», – сказаў Генадзь Зайцаў. Такая розніца існуе, што аўтабаза і шпіталь фінансуюцца з розных крыніцаў.

«На аўтабазе працуюць 105 вадзіцеляў «хуткай дапамогі», а разам з вадзіцелямі «санітарнай» дапамогі, якія абслугоўваюць Магілёў і Магілёўскі раён, – 230 чалавек. Цяпер нас хочуць перадаць з упраўлення аховы здароўя Магілёўскага аблвыканкаму ў падпарадкаванне горада Магілёва. Але праблемы з фінансаваннем гэта не рашае: грошы неабходныя штодня – на бензін і на многае іншае. Рабочы дзень большасці з іх складае 12 гадзінаў у суткі, а ў сярэднім людзі атрымліваюць каля 150 тысячаў рублёў. А сем'і карміць трэба ўсім», – гаворыць Г.Зайцаў.

Паўтарэнне стыхійнага страйку можа адбыцца ў любы момант.

**Рыгор БУЯН**




Фота IREX/ProMedia



ВЕСТКІ



## Трагедыя на чыгуначным вакзале

Дзве ахвяры прынесла трагедыя, што здарылася пазаўчора ў цэнтры Мінску. Яна адбылася на пляцоўцы каля чыгуначнага вакзала, які яшчэ даводзіцца да ладу. Двое будаўнікоў вялі мантаж гусенічнага крану, і пры ягоным пад'ёме абарваўся трос. У выніку кран упаў – 44-гадовы машыніст загінуў на месцы, а ягоны старэйшы на год напарнік з цяжкай чэрапнамазгавой траўмай трапіў у шпіталь.

## Са смяротнай карай у Савет Еўропы не патрапіць

Генеральны сакратар Савету Еўропы Вальтэр Швімер выказаўся з асуджэннем таго, што ў Беларусі прымяняецца смяротнае пакаранне. «Беларусь можа не разлічваць на разгляд пытання аб сяброўстве ў Савеце Еўропы, пакуль у краіне прымяняюцца такія жорсткія пакаранні, – заявіў Швімер. – Вось чаму я заклікаю Беларусь зрабіць неадкладныя рашучыя крокі ў бок прыняцця такога маратарыю».

## Віна стала больш – ці вып'ецца?

У Беларусі досыць рэзка павялічылася вытворчасць алкагольных напояў. У прыватнасці, у студзені студзені іх выпушчана на 26,2 працэнта больш, чымсьці ў леташнім. Больш за ўсё ўзраслі аб'ёмы вытворчасці вінаградных і пладовых він, а таксама каньяку.

## Выстава да Дня Волі

21 сакавіка ў мінскім Палацы мастацтва адкрыецца выстава «Адраджэньне-2002», якую будзе ладзіць творчая суполка «Пагоня» Беларускага саюзу мастакоў. Выстава прымеркаваная да Дня Волі — 84-й гадавіны абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі. Працягнецца выстава «пагонеўцаў» да 31 сакавіка.

## Менчукі цікавяцца калекцыяй Радзівілаў

Выстава «Выдатная кніжная спадчына XV-XX стагоддзяў Беларусі і Польшчы з калекцыі Радзівілаў» у аддзеле рэдкіх кніг і рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі Акадэміі навук Беларусі мусіла закрыцца 10 сакавіка. Але яна працягнута да 25 сакавіка. Прычына – вялікая цікавасць менчукоў да кніжных рарытэтаў.

НАДВОР'Е НА ЗАЎТРА




Крыніца: www.gismeteo.ru

**Курс наяўнага даляра на «чорным рынку»**
**1700**

ВЕСТКІ



## Шапікавае беспрацоўе

Апошнім часам у Мінску знікла чвэрць камерцыйных шапікаў: паўгода таму іх было 4 170, цяпер – 3 440. Як падае радыё «Рацыя», кожны такі кіёск звычайна забяспечвае некалькі працоўных месцаў – не менш за два, таму калі заняцца звычайнай арыфметыкай, то можна падлічыць, што ў выніку ліквідацыі шапікаў у сталіцы з'явілася не менш за тысячу беспрацоўных.

## Прыватызацыя «Гарызонту»

Працоўныя заводу тэлевізараў «Гарызонт», які летась спрацаваў са стратамі ў 1,7 мільярда рублёў, выказаліся за прыватызацыю прадпрыемства. Адна з крыніцаў інвеставання – некалькі маскоўскіх фірмаў, якія хочуць перанесці вытворчы працэс у іншае месца, а на цяперашніх плошчах заводу ў цэнтры беларускай сталіцы адкрыць Міжнародны інфармацыйны бізнес-цэнтр.

## 1 000 даляраў за прыродаахоўны артыкул

Таварыства экалагічных журналістаў ЗША абвесціла аб правядзенні традыцыйнага штогадовага конкурсу на лепшую публікацыю па праблемах экалогіі. Удзел у конкурсе могуць браць журналісты з усяго свету, што пішуць на тэму экалогіі. Лепшыя артыкулы будуць прэміявацца па дзесятку намінацыяў, першынство ў кожнай з іх прынясе прыз памерам 1 000 даляраў.

## Надбаўкі да пенсій старажылаў

Брэсцкі раённы выканкам распарадзіўся кожны месяц рабіць 20-працэнтную надбаўку да пенсіі тым жыхарам, хто дасягнуў 100-гадовага веку, і малазабяспечаным пенсіянерам. Усяго такіх атрымалася паўсотні чалавек.

## Непажаданы запас

На складах беларускіх прадпрыемстваў працягваюць расці запасы гатовай прадукцыі. Па дадзеных Міністэрства статыстыкі і аналізу, на 1 студзеня запасы склалі 63,8% ад сярэднямесячнага аб'ёму вытворчасці, а на 1 лютага – 65,8%.

## Гадаванне чмялёў

На агракамбінаце «Ждановічы» гадуюць чмялёў, якія патрэбныя тут для апылення памідораў. Раней чмялёў куплялі за мяжой, але тое даводзілася рабіць вельмі часта – штомесяц, бо насякомыя жывуць мала. Таму было вырашана, што танней будзе гадаваць чмялёў у собскай гаспадарцы.

## Прычыны ДТЗ

Самай частай прычынай дарожна-транспартных здарэнняў у Беларусі летась было перавышэнне хуткасці. Гэта – 23% ад усіх ДТЗ. Парушэнні правілаў манёўравання складаюць 20%, выезд на паласу сустрэчнага руху – 15%.

# Плошча Бангалор для Дня Канстытуцыі

Як і варта было чакаць, Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада) дазволілі правесці святочны мітынг у гонар Дня Канстытуцыі (15 сакавіка) на плошчы Бангалор. Спадзявацца на тое, што Мінгарвыканкам задаволіць заяўку, у якой сацыял-дэмакраты прасілі дазвол на шэсце з плошчы Якуба Коласа па праспекце Францішка Скарыны да плошчы Парыжскай камуны, мог толькі надта прастадушны. Такіх сярод сацыял-дэмакратаў, здаецца, няма. Таму і заяўкі, і адмоўныя адказы гарадскіх уладаў даўно ператвараліся ў нудную гульню, на якую ўжо ніхто не зважае. Адны нібыта абавязаныя прасіць сабе пасторы ў цэнтры, другі бок нібыта абавязаны дазволіць, але ў парку на плошчы Бангалор. Мітынг у цэнтры, перад оперным тэатрам нібыта ўпэўнена сцвярджае, што «ёсць такая партыя», згода на прапанаванае месца каля былой Балотнай станцыі, якое мае славу плошчы для выгулу мясцовых сабак, нібыта прыніжае статус партыі. Наўрад ці мітынг, дзе б ён ні адбываўся, прыцягне да сябе ўвагу. З прычыны зместу. Сёння не вельмі шмат людзей могуць адказаць, якое свята прыпадае ў Беларусі на 15 сакавіка, а калі нехта і прыгадае, што гэта Дзень Канстытуцыі, дык будзе доўга прыгадваць, чым яна заслужыла пашану.

Малая нагода для свята змены ладу – парламенцкага на прэзідэнцкі. Зразумела, кожны мае права на сваё бачанне наступстваў, прыстойнасць месца для масавай акцыі і памятныя дні. Для мноства людзей дня тае Канстытуцыі не відаць у святле блізкага па даце Дня Волі. Як паведаміў БелаПАН, адказ Мінскага гарвыканкаму не задаволіў кіраўніцтва БСДП (НГ), і бюро партыі прыняло рашэнне, што акцыя пачнецца, як і планавалася, на плошчы Якуба Коласа. «Акцыя адбудзецца ў любым выпадку, – заявіў старшыня партыі М.Статкевіч, – і мы разлічваем, што яна будзе масавай».

**Рыгор ГРЫМОВІЧ**

## Уцёкі сарваліся

Не ўдалося ўцячы чатыром арыштаваным з ізалятара часовага ўтрымання (ІЧУ) Бярозаўскага РАУС (Брэсцкая вобласць).

На момант уцёкаў у камеры ІЧУ знаходзіліся сямёра арыштаваных, чацвёра з якіх, узброіўшыся супінатарам ад паўчаравікі і металічным штыром, вынесеным з прыбіральні ІЧУ, разабралі сцяну, разагнулі металічныя краты перакрыцця і апынуліся ў двары раённага аддзелу ўнутраных спраў. Там уцекачоў заўважылі супрацоўнікі міліцыі. Двое з іх былі затрыманы дзяжурным нарадам на даху ІЧУ, а яшчэ двум, не раз судзімым за крадзяжы, удалося ўцячы. На тэрыторыі Брэсцкай вобласці быў уведзены ў дзеянне спецыяльны план «Сірэна». У 13.50 9 сакавіка ўцекачоў затрымалі ў адным з жылых дамоў вёскі Старыя Пяскі Бярозаўскага раёну.

**Юрый КАСЬЯНАЎ**

## Кожны месяц – шкода ад стыхіі

Моцны вецер, парывы якога ў некаторых рэгіёнах Беларусі ў мінулыя выхадныя дасягалі 25 метраў у секунду, нанёс шэрагу раёнаў істотную матэрыяльную шкоду.

Паводле звестак прэс-службы Міністэрства па надзвычайных сітуацыях, найбольшых пашкоджанні стыхія зрабіла ў Брэсцкай вобласці. 7 сакавіка ў Брэсцкім, Столінскім і Івацэвіцкім раёнах пацярпелі шэсць населеных пунктаў, пашкоджаны шэсць жылых дамоў і 10 сельскагаспадарчых будынкаў, у тым ліку чатыры фермы. У Гродзенскай вобласці пацярпелі 10 вёсак Воранаўскага раёну. Вецер сарваў шыферныя дахі з 11-ці сельскагаспадарчых будынкаў, пашкодзіў чатыры трансфарматарныя падстанцыі і шэсць кіламетраў ліній электраперадач. Ельскі, Петрыкаўскі, Мазырскі, Лоеўскі і Гомельскі раёны пацярпелі ў выніку стыхіі ў Гомельскай вобласці. У дзевяці паселішчах пашкоджаны 88 жылых дамоў, тры сельскагаспадарчыя будынкі, адна трансфарматарная падстанцыя; 98 жылых дамоў у дзвюх вёсках абясточаныя.

Наступствы стыхіі ліквідуюць раённыя камісіі па надзвычайных сітуацыях. Між тым дагэтуль працягваюцца аднаўленчыя працы на аб'ектах, пашкоджаных ураганным ветрам яшчэ ў канцы лютага: на гэты момант не адноўленыя тры жылыя дамы, сем аб'ектаў сацкультбыту, тры вытворчыя і 101 сельскагаспадарчы будынак.

**Дзмітрый БЕЛЬСКІ**

# Арміі патрэбныя афіцэры

Да канца 2006 году Міністэрства абароны Беларусі плануе скараціць некамплект афіцэраў ва Узброеных сілах на 30%. Пра гэта 11 сакавіка ў інтэрв'ю БелаПАНу паведаміў намеснік начальніка галоўнага ўпраўлення кадраў Міністэрства абароны Беларусі палкоўнік Канстанцін Шведаў. У прыватнасці, да канца 2002 году плануецца скараціць некамплект афіцэраў і прапаршчыкаў на 1 300 чалавек.

«Працэс завяршэння рэфармавання Узброеных сілаў Беларусі зрабіў ваенную службу больш прыцягальнай», – лічыць Шведаў. Паводле яго словаў, «у апошнія гады ў беларускай арміі нарасталі негатыўныя тэндэнцыі», якія мелі «ў першую чаргу сацыяльна-эканамічны характар», што і паслужыла прычынай адтоку афіцэрскіх кадраў. Неабходнасць вырашэння вострых сацыяльна-эканамічных праблемаў стала «адным з галоўных пабуджальных матываў да правядзення ваеннай рэформы».

Укамплектаванасць афіцэрскіх пасадаў у арміі, паводле слоў Шведава, расце і «за кошт аптымізацыі арганізацыйна-штатнай структуры Узброеных сілаў». Напрыклад, толькі за студзень-люты 2002 году некамплект афіцэраў у арміі скараціўся на 261 чалавека.

Сёння ўкамплектаванасць пасадаў афіцэрскага саставу складае: 94,9% – пасады камандзіраў батальёнаў, 86,3% – камандзіраў ротаў, 42,3% – камандзіраў узводаў.

**Юрый КАСЬЯНАЎ**

# Справа журналістаў «Пагоні» – у судзе

12 сакавіка крымінальную справу на Міколу Маркевіча і Паўла Мажэйку перадалі ў суд. Такое рашэнне прыняў намеснік пракурора Гродзенскай вобласці Уладзімір Аніська. Абодвух журналістаў абвінавачваюць у паклёпе на прэзідэнта. Следства праігнаравала тры літаратуразнаўчыя экспертызы, якія паказалі, што паклёпу ў тэкстах «Пагоні» не было. Адна экспертыза была незалежнай, а дзве другія праводзіліся на заказ самога следства.

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

# Трохмоўная «Новая зямля»

Беларускім фондам культуры (БФК) выдадзена кніга Якуба Коласа «Новая зямля» на трох мовах – беларускай, польскай і расійскай. Пра гэта на прэс-канферэнцыі ў Мінску паведаміў старшыня БФК Уладзімір Гілеп.

91 ілюстрацыю да кнігі зрабіў вядомы беларускі мастак Васіль Шаранговіч. Наклад кнігі складае 5 тысяч асобнікаў, арыенціровачная цана – 15 тысяч рублёў. Кніга будзе прадавацца ў Беларусі, Польшчы і Расіі. У найбліжэйшых планах выдаўцоў – прадставіць выданне на кірмашы «*Книги России*» і правесці прэзентацыю «Новай зямлі» ў Польшчы. Паводле звестак першага намесніка міністра інфармацыі Станіслава Нічыпаровіча, на працягу 2000-2001 гадоў у Беларусі было выдадзена 15 твораў Якуба Коласа і Янкі Купалы, а таксама выданняў літаратуразнаўчага зместу пра двух вялікіх «беларускіх песняроў», 120-годдзе з дня нараджэння якіх адзначаецца сёлета. У гэтым годзе плануецца выпуск новых кніг.

Асаблівай увагі заслугоўвае праект выдання юбілейнай кнігі «Санеты» Янкі Купалы на васьмі мовах. Апрача таго, у найбліжэйшых планах выдавецтва «Мастацкая літаратура» – выпуск збору твораў Якуба Коласа ў 15-18 тамах і шмат што іншае.

**Маша ПЯТРОВА**

## Тыдзень франкафоніі

Пасольства Францыі ў Рэспубліцы Беларусь аб'явіла аб правядзенні ў Мінску 18-22 сакавіка «Тыдня франкафоніі-2002». Гэтае мерапрыемства, прысвечанае французскай мове, французскай і франкафоннай культуры, праводзіцца ў гонар Міжнароднага дня франкафоніі, які адзначаецца 20 сакавіка.

Міжнародны дзень франкафоніі адзначаецца ў свеце з 1988 году. Агенцтва франкафоніі ў Парыжы было створана ў 1970 годзе; яно аб'ядноўвае краіны, дзе шырока выкарыстоўваецца французская мова. Сёння такіх краін 55. Паняцце «франкафонія» ўключае таксама 82 мільёны чалавек, якія вывучаюць французскую мову. У Беларусі з іх жывуць 150 тысяч, што складае каля 8 працэнтаў беларускіх студэнтаў і школьнікаў. Усяго на франкафоннай прасторы жывуць 500 мільёнаў чалавек, і яна аб'ядноўвае больш за чвэрць дзяржаў свету.

**Ірына САЗАНОВІЧ**

## Затрымалі разбуральнікаў могілак

У ноч з 11 на 12 сакавіка на Трышынскіх могілках у Брэсце былі разбураны і пашкоджаны 29 помнікаў.

З паведамленнем пра тое, што невядомыя разбураюць помнікі, у міліцыю звярнуўся выпадковы мінак. На могілкі аператыўна выехала дзяжурная група.

На месцы злачынства быў затрыманы 20-гадовы брэстаўчанін, астатнім удалося збегчы. 12 сакавіка супрацоўнікі міліцыі затрымалі трох яго саўдзельнікаў. Усе яны – непрацуючыя жыхары абласнога цэнтра. Дваіх з падазроных арыштавалі, дваіх – пакуль толькі затрымалі.

Цяпер на могілках праводзіцца агляд. Паводле слоў падазроных, яны не знаходзяцца ні ў якіх дэструктыўных сектах. Яны прызналіся, што акт вандалізму на найстарэйшых могілках у цэнтры гораду яны ўчынілі ў нецвярозым стане.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ**

## Ахвяры жаночага свята

За тры выходныя дні, з 8 па 10 сакавіка, у пажарах загінулі 20 жыхароў Беларусі. З іх восем чалавек – непасрэдна ў святочны дзень 8 сакавіка.

Як паведамілі ў прэс-службе МНС, у выніку пажару, што ўзнік у гэты дзень, каля 23 гадзін, у кватэры жылога дома па вуліцы Пляханава ў Мінску, прадуктамі гарэння атруцілася 47-гадовая гаспадыня кватэры. Ратаўнікі, якія прыбылі на месца пажару, хутка ліквідавалі агонь, аднак выратаваць жанчыну не паспелі. Падчас расследавання высветлілася, што пажар пачаўся з-за не патушанай гаспадыняю цыгарэты.

Неасцярожнасць пры курэнні стала прычынай яшчэ адной трагедыі, якая здарылася 8 сакавіка. У ёй загінуў 31-гадовы жыхар вёскі Машанакі Магілёўскага раёну і яе двухгадовы сын. З той жа прычыны адбыліся пажары 7 сакавіка, у выніку якіх загінулі 4 чалавекі.

Як зазначаюць у МНС, больш за 85 працэнтаў жыхароў Беларусі, якія гінуць у пажарах, становяцца ахвярамі агню менавіта з-за ўласнай неасцярожнасці пры курэнні.

**Дзмітрый БЕЛЬСКІ**

НАШЫ ВАНДАЛЫ



У Мінску на плошчы Свабоды побач з мурамі Нацыянальнага архіву адбойнымі малаткамі вынішчаюць падмуркі рамесніцкіх і гандлёвых радоў, закладзеныя ў XVII стагоддзі. Хто толькі з культурніцкага чыноўніцтва ні прыпадабняўся да гамераўскіх сірэнаў, спяваючы даверлівым дурням абяцанкі захаваць гэтыя ўнікальныя рэшткі мінскага Верхняга гораду для музейнага выкарыстання. Наш здымак – сумнае і невяржнае сведчанне, што ў Мінску здзяйсняецца планавае выкараненне гістарычнага цэнтру, каб потым пабудаваць дэкарацыі з выкарыстаннем старасвецкіх матываў, як ужо зрабіў АТ «Стары Менск» з прылеглай часткай Верхняга гораду, аддадзенай пад офісы і паркінгі для заможных бізнесоўцаў.

# Саюзны візіт

*Заканчэнне, пачатак на стар.1*

Толькі пасля гэтага можна будзе пераходзіць да роўных умоваў гаспадарання, адзначыў М.Касьянаў.

Па выніках перамоваў у рамках беларуска-расійскага Савету міністраў было вырашана да 1 красавіка падрыхтаваць пакет дакументаў, скіраваных на стварэнне Адзінай эканамічнай прасторы Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі. Гэта заявіў пасля сустрэчы з журналістамі М.Касьянаў. Па ягоных словах, у пакет будуць уваходзіць чатыры міжурадавыя пагадненні, а таксама дэкрэт і ўказ прэзідэнта Беларусі. Вынікае, што за ўзор бярэцца менавіта расійская мадэль эканамічнага развіцця, а Беларусь «падганяецца» пад гэты фармат.


Фота Ул.ШЛАПАКА

Старшыня расійскага ўраду патлумачыў, што міжурадавыя пагадненні прадугледжваюць адзіныя для Расіі і Беларусі тарыфы на газ, электраэнергію і паслугі чыгункі. Яны ўстанаўліваюць рэжым збірання ўскосных падаткаў па краіне паходжання, а таксама падводзяць рысу пад уніфікацыяй усіх мытных пошлінаў. Яшчэ адно пагадненне цяпер дапрацоўваецца – яно датычыцца кампенсацыяў даходаў, якія бюджэты недаатрымаюць у сувязі з падатковымі зьмяненнямі.

Што да прэзідэнцкіх актаў, праекты якіх ужо цалкам узгодненыя, то яны, па словах М.Касьянава, касуюць усе льготы і прэферэнцыі, якія дзейнічаюць цяпер для прадпрыемстваў у Беларусі.

Прэм'ер-міністр Расіі распавёў журналістам, што ўдзельнікі сустрэчы падтрымалі ідэю сабраць праз некалькі месяцаў прадстаўнікоў дзелавых колаў Расіі і Беларусі, каб абмеркаваць шляхі ўзаемадзеяння ў новых эканамічных умовах.

Па словах беларускага прэм'ера Генадзя Навіцкага, усе дакументы будуць узгодненыя на працягу некалькіх дзён. Канчатковая капітуляцыя «беларускай мадэлі эканомікі» будзе падпісвацца ў Маскве, на паседжанні Найвышэйшага дзяржаўнага савету Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі. Толькі пасля гэтага пачнецца праца па руйнаванні беларускай валюты і замене яе на расійскую.

Што датычыць галоўнага палітычнага пытання – якім будзе Канстытуцыйны акт, паводле якога Беларусь і Расію будуць аб'ядноўваць, – то тут вялікага прагрэсу не было. Русабельскі Савет міністраў толькі даручыў рабочай групе падрыхтаваць магчымыя канструкцыі дзяржаўнага будаўніцтва Саюзнай дзяржавы. Міхаіл Касьянаў патлумачыў, што, мяркуючы, потым юрысты аформяць усё, што заўгодна; галоўнае – самім вызначыцца па прынцыпах пабудовы Саюзнай дзяржавы.

**Расціслаў ПЕРМЯКОЎ**


Фота Ул.ШЛАПАКА

# Прыватызацыя на «Нафтане»

Акцыянаванне на наваполацкім вытворчым аб'яднанні «Нафтан» праводзіцца занадта паспешліва. Супрацоўнікі Віцебскага абласнога камітэту па кіраванні дзяржаўнай маёмасцю і прыватызацыі баяцца, што за той месяц, які быў вызначаны для правядзення акцыянавання, можна хіба што збольшага інвентарызаваць маёмасць. Цяпер супрацоўнікаў камітэту, якія не маюць грошай на камандзіроўкі, ВА «Нафтан» возіць у Наваполацк на сваім аўтобусе.

Тым часам шараговых працаўнікоў непакоіць адсутнасць усялякай інфармацыі пра разгорнутую на прадпрыемстве прыватызацыю. Паводле словаў кіраўніка заводскай арганізацыі Свабоднага прафсаюзу Беларускага Васіля Главацкіх, у адказ на пытанні пра магчымыя адмоўныя вынікі цяперашняй прыватызацыі на «Нафтане» для калектыву прадпрыемства ад адміністрацыі можна пачуць толькі адгаворкі. А прафсаюзныя актывісты заклапочаныя магчымым пагаршэннем становішча працоўных. Іх насцярожвае надзвычай малая доля акцый, пакінутых для продажу чальцам калектыву: усяго 2–2,5%. Апроч таго, умовы цяперашняй прыватызацыі штучна абмяжоўваюць набыццё акцый на чэкі «Маёмасць» толькі іменнымі чэкамі працаўнікоў «Нафтану» і іх блізкіх сваякоў. На думку экспертаў, для эфектыўнай абароны сваіх правоў калектыў павінен мець хаця б 10% акцыяў.

Прыклад такой прыватызацыі на Мазырскім нафтаперапрацоўчым заводзе, паводле назіранняў тых самых экспертаў Свабоднага прафсаюзу, сведчыць пра магчымасць пагаршэння становішча шараговых працоўных прадпрыемства: у прыватнасці, на другі год пасля акцыянавання на Мазырскім заводзе адбылося зніжэнне агульнага ўзроўню заробкаў.

**Міхал ЧАРВІНСКІ**


Фота IREX/ProMedia

# «Народнаму прэзідэнту» па гусце расійскі собаль

Лукашэнка, які публічна на БТ любіць падкрэсліваць сваю сціпласць, на справе вельмі любіць дарагія футры. Напрыклад, нядаўна на яго заказ у Маскве была пашыта адмысловая сабалёвая шапка.

Пра гэты факт днямі паведаміла расійская газета «*Труд*». Выданне змясціла матэрыял пра атэлье, якое раней абслугоўвала толькі членаў ЦК КПСС, а цяпер называецца «*Президэнт-сервис*». Дырэктар атэлье Юрый Спіцын прызнаўся, што не толькі гаспадары Крамля, але і кіраўнікі суседніх з Расіяй дзяржаў – сталыя яго кліенты. Далей ён расказаў пра заказ Лукашэнкі.

Паводле яго словаў, у атэлье выкарыстоўваецца найлепшае і адпаведна самае дарагое футра. Шуба з норкі каштуе не менш за 4 000 даляраў, таму такія заказы вельмі рэдкія. Але тыя, хто грошай не лічыць, іх замаўляюць. Напрыклад, нядаўна такі заказ зрабіў Жырыноўскі.

А ўвогуле самыя дарагія заказы – з собаля, футра якога лічыцца самым каштоўным. За ўсё існаванне атэлье было пашыта толькі пяць сабалёвых шуб. А вось сабалёвая шапка для Лукашэнкі была пашыта зусім нядаўна. Пры гэтым супрацоўнікі атэлье заўважаюць, што расійская эліта больш сціплая: у адрозненне ад беларускіх, маскоўскія чыноўнікі заказваюць «партыйныя» андатравыя шапкі, кепкі або ўвогуле «ходзяць з непакрытай галавой».

**Сымон ШПАКОЎСКІ**

# Дзе Лукашэнка?

*Заканчэнне, пачатак на стар.1*

Прэс-сакратар А.Лукашэнкі Наталля Пяткевіч не згодная з такім «дыягназам». Па яе словах, адпачынак ніяк не звязаны са станам здароўя, яе шэф «здаровы як заўсёды» і будзе гэтымі днямі займацца спортам.

Але калі і так, то будзе займацца дзе? Па нашых звестках, краіна, куды скіраваўся беларускі кіраўнік – гэта Аўстрыя. Ускосна гэта пацвердзілі супрацоўнікі Нацыянальнага аэрапорту «Мінск». Іншыя крыніцы распавялі, што калі беларускі самалёт прызямліўся ў Вене, то А.Лукашэнка ў суправаджэнні 2-3 чалавек – не болей – перасеў на іншы невялічкі самалёцік і знік у невядомым напрамку. Да дактароў? На гарналыжны курорт? Некуды яшчэ?

Дасведчаныя асобы распавядаюць, што менавіта ў Аўстрыі ёсць шыкоўны дыягнастычны цэнтр для асабліва багатых асобаў, надзейна схаваны ад вачэй папарацы. Беларускі кіраўнік цалкам мог выправіцца туды, каб атрымаць кансультацыю – як лячыцца ад сваіх балячак.

Прэзідэнт мае права на хваробу – але толькі на такую, якая яму не перашкаджае належным чынам кіраваць дзяржавай. Ведаць пра стан здароўя кіраўніка дзяржавы – права кожнага грамадзяніна краіны.

Можна прыгадаць прэзідэнта Чэхіі Вацлава Гавела. Вось ужо колькі гадоў ён пакутуе на рак лёгкіх – хвароба яму дасталася ў камуністычных вязніцах. Яму робяць шмат аперацыяў, але хваробу канчаткова перамагчы не могуць. Пры гэтым ён лічыцца вельмі папулярным сярод чэхаў і на другі тэрмін быў пераабраны, нягледзячы на стан здароўя.

Параўнаем з экс-прэзідэнтам суседняй Расіі Барысам Ельцыным. У 1996 годзе краіна абрала яго, нават не ведаючы, што кандыдат – за крок ад смерці. Увесь час другога прэзідэнцкага тэрміну расіяне не маглі дараваць свайму лідэру маўчання пра стан ягонага здароўя.

Няўжо цяпер па гэтым слізкім шляху маўчання пайшоў і беларускі кіраўнік, які заўсёды ганарыўся сваімі спартыўнымі поспехамі? Звычайна, калі Лукашэнка з'язджаў у адпачынак, ягоная прэс-служба паведамляла, куды ён паехаў. Цяперашнее маўчанне выклікае падазрэнні. Зрэшты, рана ці позна, праўда выходзіць на яву.

**Ірына СТАРЦАВА**

**P.S.** Калі ўжо вярстаўся нумар, мы атрымалі пацверджанне таго, што А.Лукашэнка сапраўды ў Аўстрыі. Як перадало агенцтва БелаПАН, гэта з відавочнай неахвотай пацвердзіў прэм'ер-міністр Беларусі Генадзь Навіцкі. Зрабіў ён гэта, мяркуючы па ўсім, неахвотна: спачатку паспрабаваў абмежавацца толькі канстатацыяй таго, што А.Лукашэнка знаходзіцца «за межамі Рэспублікі Беларусь», і толькі на дадатковае пытанне «У Аўстрыі?» адказаў сцвярджальна. Пры гэтым прэм'ер-міністр падкрэсліў, што прэзідэнт знаходзіцца ў 10-дзённым адпачынку «упершыню за 7 гадоў сваёй працы».

## СВОЙ ГОЛАС

***— Якую песню, на вашу думку, было б варта абраць за нацыянальны гімн Беларусі?***



**Наталля, перакладчыца:**
— Прапанавалі нейкую песню на словы Наталлі Арсенневай? Дык вось, каб яна гімнам стала, я была б не супраць.



**Наташа, студэнтка:**
— А мне падабаецца вось гэта: (дастаўшы мабільны тэлефон, дэманструе з набору мелодыяў нешта накшталт полечкі). У гэтым ёсць нешта беларускае.



**Мікалай, слесар:**
— Ніколі не думаў пра гэта... Я за тое, каб гімнам было нешта звязанае з нашымі народнымі пісьменнікамі, бліжэй да народнай класікі.



**Уладзімір Канстанцінавіч, пенсіянер:**
— Вы гімн маеце на ўвазе Беларусі?.. А вы мне наспявайце, якія там варыянты. А-а, узгадаў, «Мы, беларусы, з братняю Руссю» там ёсць. Хай гэты і застаецца.



**Вольга, вучаніца:**
— А я не чула ніводнага. Праўда, новы гімн будзе? Мне б хацелася што-небудзь такое роднае, пра Беларусь. Ну і, зразумела, на беларускай мове. Але не той, які ў нас цяпер.



**Рыгор, інжынер-канструктар:**
— Я думаю, што трэба перапісаць словы цяперашняга гімну, і будзе абсалютна нармальна.



**Ірына, эканаміст:**
— Тая мелодыя, якая ёсць цяпер – вельмі прадстаўнічая. Я б яе пакінула, а словы б новыя напісала.



**Віктар, сталяр:**
— Ну, пажадана нешта іншае, чым тое, што было і ёсць, бо ўжо састарэла. Нешта новае павінна быць, на беларускай мове і пра Беларусь.



**Ларыса, інжынер:**
— Трэба, каб гімн быў сучасны, з беларускімі матывамі, рамантычны, каб пад яго было добра ісці на дэманстрацыю. Але я канкрэтна вам нічога не назаву, бо я дрэнна ведаю беларускую музыку.



**Таццяна, працуе ў турагенцтве:**
— Ну вось апошняя песня, якая была ў нас гімнам, нават словы я ўжо нейк падзабыла. Савецкі гімн. І нічога, што там пра Леніна ды пра Сталіна, яны ж частка нашай гісторыі.



**Алена, выкладчыца музыкі:**
— Цяжка сказаць. Можа, з "Песняроў" што-небудзь? Напрыклад «Белая вежа». У іх ёсць, здаецца, такая песня.



**Сяргей, кантралёр:**
— Трэба такую песню, каб, калі яна гучыць, а ты стаіш у страі, да слёз праймала, каб грудзі сціскала. А з новых ніякіх і не чуў. Трэба, каб там былі словы «Свабодная Беларусь».



**Святлана, мастачка:**
— Нават не ведаю. Нешта са школы мне прыгадваецца, «Я мужык-беларус...». Хай гэты будзе. Насамрэч мне абсалютна ўсё роўна. Трэба з Расіяй аб'яднацца, вось што я скажу, і будзе ў нас расійскі гімн.

**Апытанне праводзілі Аляксей ШЫДЛОЎСКІ і Уладзімір ШЛАПАК (фота)**

# Інвестыцыйныя хвалі

*Нельга сказаць, што з кожнай эканамічнай ініцыятывы беларускага ўраду выглядае знакаміты ленінскі лозунг: «Мы пойдзем іншым шляхам». Хай вера ў бязмежныя магчымасці адміністрацыйнага рэсурсу яшчэ жыве ў сэрцы прэм'ера ды яго першых намеснікаў. Вера верай, але і такі рынкавы панятак, як «інвестыцыі», усё часцей гучыць з высокіх трыбунаў. Тым больш, што ёсць падстава. Мінэканомікі ўнесла ў Савет міністраў чарговы праект чарговай інвестыцыйнай праграмы. Яе першая прэзентацыя адбылася яшчэ ў лёсавызначальным 1996-ым і прадугледжвала прыцягненне ў рэспубліку 50 млрд. даляраў. Дакладна столькі ўдалося прыцягнуць Польшчы за апошнія 10 гадоў. Але гэта да ведама.*




У нас практычныя вынікі сціплейшыя. Калі падзяліць тое, што ўклалі ў эканоміку ў 2000 годзе, на тое, што ўдалося назбіраць у годзе мінулым, то дзель будзе роўны 0,939. Ці, як кажуць эканамісты, «93,9% да ўзроўню мінулага году». «З замежнымі інвестыцыямі (на думку дзяржаўнай прэсы) яшчэ маркотней», і мы гэты смутак падзяляем.

Але вернемся да ўнесенай у Раду міністраў новай рэдакцыі старой інвестыцыйнай праграмы. Распрацоўшчыкі прапаноўваюць прыцягваць па 1 млрд. даляраў замежнага капіталу ў год. Жыццё, як бачыце, зрабіла свае карэктывы не толькі ў практыцы, але і ў тэорыі. Сумаваць, аднак, не варта: па 1 млрд. даляраў у год прыцягваць будуць не доўга, да 2006 году. Затым стаўка падвоіцца. А далей «...хваля новых прыватызацыйных ініцыятываў цалкам можа вынесці імідж Беларусі на якасна новы ўзровень». Зноў цытата з вышэйзгаданай крыніцы. Нам усім застаецца ўцягнуць галовы ў плечы і зачапіцца за што-небудзь трывалае, а то раптам хваляй змые.

Самая простая справа – кідаць рэплікі з месца. Тым больш у эканамічную мадэль дзяржавы, якая на нашых вачахператвараецца ў выспу, выспу ў геаграфічным цэнтры Еўропы. Якое ж тут падваенне, нам бы падзенне прытармазіць. Іншая справа, зменім уладу, прымем «правільныя» законы, і будзе як у Польшчы. А калі не будзе? Павернем галовы на 180 градусаў з Захаду на Усход. Заканадаўства ў Расіі рыначнае, эканоміка стабільна расце, першыя асобы дзяржавы па ўсім свеце раз'язджаюць, з сусветнай бізнес-элітай справы маюць, а сур'ёзных інвестыцый няма. У 2001 годзе іх удзельная вага ў агульным аб'ёме не перавысіла 5%. Мала таго, свой капітал як уцякаў з Расіі, так і ўцякае. Лік ідзе на дзесяткі мільярдаў.

Выснова? Выснова вельмі простая: спакусіць прыватных інвестараў (інвестар на Захадзе заўсёды прыватны) прыняццем законаў і праграмаў нельга. На доказ сваёй «добранадзейнасці» ідуць гады. Калі не створаныя ўмовы для мясцовых прадпрымальнікаў, то як можна спадзявацца на замежных? Гэта ў СССР замежных турыстаў размяшчалі ў «інтурыстах». Для астатніх былі «*Спутники*». Капітал па прыродзе сваёй інтэрнацыянальны. Пад асабістыя гарантыі ён можа ісці толькі ў асабістую кішэню. З кішэні прайдзісвета ад бізнесу ў кішэню прайдзісвета ад палітыкі.

**Сяргей НІКАЛЮК**

# Польская пракуратура бароніць Жукаўца

8 сакавіка ў Беластоку адбылося паседжанне апеляцыйнага суду па справе аб экстрадыцыі беларускага бізнесмена Андрэя Жукаўца. Роўна месяц таму акруговы беластоцкі суд вырашыў, што гэтая экстрадыцыя магчымая. А ў якасці доказу «дасканаласці» беларускай судовай сістэмы, у незалежнасці і бесстароннасці якой сумняюцца Жукавец і ягоны адвакат, польскі пракурор прывёў той факт, што Лукашэнка, у адрозненне ад прэзідэнта Польшчы, дае беларускім суддзям кватэры.

Пра тое, што гэта была прыватная думка пракурора Уладзімежа Раманчука, сведчыць тое, што супраць яго ўзбуджана службовае расследаванне, а чарговы прадстаўнік беластоцкай пракуратуры – пракурор Веслаў Бытыс – на паседжанні апеляцыйнага суду нечакана для ўсіх і найперш для самога Жукаўца падтрымаў просьбу абароны аб прызнанні экстрадыцыі недапушчальнаю, бо ў Беларусі бізнесмен, які спрыяе апазіцыі, не мог бы разлічваць на справядлівы працэс. Суддзі ўхвалілі такую пазіцыю пракуратуры, і на гэтым працэс аб экстрадыцыі, які цягнуўся 11 месяцаў, скончыўся. Гэта, аднак, не пазбаўляе Жукаўца адказнасці за нявернуты крэдыт у памеры 700 тысяч даляраў. Хутчэй за ўсё самой справай крэдыту «па сутнасці» зоймецца польскае правасуддзе, на што Жукавец глядзіць аптымістычна. «Я не баюся стаць перад польскім судом, бо я невінаваты», – заяўляе ён, дадаючы, што рашэнне аб нявыдачы яго ў Беларусь даводзіць, што Польшча – гэта дэмакратычная дзяржава.

**Людміла ГУЛЯКЕВІЧ**

# Новы парадак уплаты адзінага падатку

Новая рэдакцыя дэкрэта «Аб увядзенні адзінага падатку для вытворцаў сельскагаспадарчай прадукцыі» прадугледжвае зніжэнне стаўкі адзінага падатку для сельгасвытворцаў з 5 да 2 працэнтаў. Разам з гэтым для гаспадарак, якія перайшлі на адзіны падатак, уводзіцца ўплата падатку на дабаўленую вартасць на агульных падставах.

Прадстаўнік камісіі Палаты прадстаўнікоў па аграрных пытаннях Аляксандр Зінчанка заявіў, што ўвядзенне дэкрэту не аблегчыць падатковы цяжар, але спросціць сістэму вылічэння адзінага падатку. Як зазначыў дэпутат, кваліфікацыя бухгалтараў, якія працуюць у сельгаспрадпрыемствах, як правіла, не вельмі высокая.

Чакаецца, што дэкрэт будзе разгледжаны Палатай прадстаўнікоў на пачатку красавіка.

**Юрый ПАЦЁМКІН**

# Дыспансер – не Лядовы палац,

## *яго можна будаваць дзесяцігоддзі*

*Яшчэ ў 1990 годзе беларуская Рада міністраў прыняла распараджэнне № 497-р пра будаўніцтва замежнымі ўстановамі «пад ключ» спецдыспансера радыяцыйнай медыцыны ў Гомелі.*

Меркавалася, што ў фінансаванні новабудоўлі возьме ўдзел і ўрад былога Саюзу. Апошні сапраўды дазволіў Гомельскай вобласці прадаць 300 тысяч тон нафты, якую здабывала аб'яднанне «Беларуснафта», а валютную выручку накіраваць на будаўніцтва спецдыспансера. І гэта было зразумела. Тут павінны былі лячыцца ахвяры Чарнобылю не толькі з Беларусі, але з Расіі і Украіны.

Аднак прайшло амаль тры гады, пакуль швейцарская фірма «Смелт-Інтаг», што выйграла конкурс, прыступіла да будаўніцтва. Здарылася гэта таму, што гомельскія партыйныя кіраўнікі, маючы карыслівыя мэты, замест заключэння дамовы з фірмай «Смелт-Інтаг» сталі шукаць новага падрадчыка, у прыватнасці ў Бельгіі. Да гэтых «пошукаў» далучыліся і асобныя маскоўскія навукоўцы, што глядзелі на Чарнобыльскую катастрофу як на звычайную аварыю.

Словам, час быў страчаны. Саюз развалiўся. Расія, як яго пераемніца, заблакавала ў маскоўскім «Знешэканамбанку» каля 28 мільёнаў даляраў ЗША, прызначаных на будаўніцтва спецдыспансера. Да таго ж значную частку выручанай ад продажу нафты валюты Гомельскі аблвыканкам пусціў на іншыя патрэбы, не звязаныя з узвядзеннем унікальнай лячэбнай установы.

У траўні 1993 году беларускаму ўраду пад кіраўніцтвам В.Кебіча давялося не без цяжкасцяў акумуляваць новую суму валютных сродкаў і са спазненнем амаль на тры гады ўсё-такі пачынаць будаўніцтва спецдыспансера.

Меркавалася, што ўжо ў 1995 годзе спецдыспансер будзе здадзены «пад ключ» Міністэрству аховы здароўя, да якога, паводле распараджэння ўраду, адышлі функцыі заказчыка.

Аднак мінула амаль 9 гадоў, а заканчэнню будаўніцтва спецдыспансера ў Гомелі і канца не відаць. Праз адсутнасць сродкаў фірма «Смелт-Інтаг» чарговым разам пакінула аб'ект. Сюды не даходзілі нават усе сродкі, зробленыя на спецыяльна зладжаным суботніку.

Жыхары Гомелю цяпер нявесела жартуюць: каб хутка збудаваць, спецдыспансер радыяцыйнай медыцыны павінен стаць... Лядовым палацам. На палацах хакею, у тым ліку і гомельскім, перакрыты былі ўсе будаўнічыя нарматывы. Больш таго, цяпер у Гомелі выдзеленыя сродкі на праектаванне 2-й чаргі Лядовага палацу.

Што ж да спецдыспансеру для лячэння ахвяраў Чарнобылю, то фінансаванне яго вядзецца па астаткавым прынцыпе.

– У мінулым годзе, – кажа галоўны ўрач спецдыспансеру Уладзімір Верабей, – у нас з 4 выдзеленых мільярдаў рублёў забралі амаль 2 мільярды. 600 мільёнаў – на калектар, 300 – на розныя рэспубліканскія аб'екты на падставе распараджэння Мінфіну. У канцы году мы пазбавіліся яшчэ 1 мільярда рублёў.

Два мінулыя сёлетнія месяцы таксама страчаны. Згаданая вышэй швейцарская фірма «Смелт-Інтаг», якая выступае генеральным падрадчыкам, заяўляе, што адновіць працу толькі тады, калі беларускі бок назбірае дастаткова сродкаў.

Даўгабуд крыху ажывае, калі «зверху» паступіць інфармацыя, што яго наведае Аляксандр Лукашэнка. Вось і нядаўна на будоўлю завіталі міністр аховы здароўя Уладзіслаў Астапенка і старшыня Гомельскага аблвыканкаму Аляксандр Якабсон. І не выпадкова. У абласным цэнтры афіцыйна аб'яўлена, што напрыканцы сакавіка на спецдыспансер прыедзе кіраўнік дзяржавы. Відавочна, што і мясцовая «вертыкаль», і Міністэрства аховы здароўя намагаюцца ажывіць будоўлю.

– Спадзяюся, – сказаў, у прыватнасці, міністр Астапенка, – што з'явяцца нейкія рашэнні дзеля таго, каб паскорыць узвядзенне даўгабуду, ці «чорнай дзюры», як я яе называю.

Адсутнасць грошай вымушае міністэрства пагаджацца на пачарговы ўвод спецдыспансеру. Напачатку – лячэбна-дыягнастычны корпус, які падрыхтаваны прыкладна напалову. Аднак і ў гэтым выпадку разглядаюцца два варыянты ўводу ЛДК у строй. На поўны варыянт трэба 10 мільярдаў беларускіх рублёў і 10 мільёнаў даляраў ЗША, на ўрэзаны – 8 мільярдаў «зайцоў» і тыя ж 10 мільёнаў даляраў. Аляксандр Якабсон у гэтай сувязі запатрабаваў ад дырэкцыі новабудоўлі азначыць гэтыя варыянты на праекце рознымі колерамі. Для нагляднасці. І гэта зразумела. У Міністэрства аховы здароўя як заказчыка спецдыспансера сёлета ёсць на даўгабуд толькі 3 мільярды рублёў, з якіх 230 мільёнаў яно аддадзена будаўнікам за леташнія даўгі.

Камітэт па праблемах наступстваў катастрофы на Чарнобыльскай АЭС пры Савеце міністраў пакуль ні рубля не прапанаваў на даўгабуд з выдзеленых яму сродкаў. Было толькі заяўлена, што на будаўніцтва спецдыспансеру нібыта будуць накіраваны 49 мільёнаў расійскіх рублёў (каля 900 тысяч даляраў) з беларуска-расійскага саюзнага бюджэту.

Ніякім чынам пакуль не спрычыніўся да фінансавання спецдыспансеру радыяцыйнай медыцыны і Гомельскі аблвыканкам – быццам бы будуецца ён не для хворых жыхароў забруджанага радыяцыяй рэгіёну.

Усе пакуль спадзяюцца, што прыедзе Лукашэнка і дасць грошай, калі не на ўвесь лячэбна-дыягнастычны корпус, то хаця б на яго ўрэзаны варыянт.

**Анатоль ГАТОЎЧЫЦ**



Для здаровых набудавалі шмат

ЭКСПРЭС

# Эканамічныя нататкі

### З кітайцамі поруч

Узровень тавараразвароту паміж Беларуссю і Кітаем ужо ў гэтым годзе плануецца давесці да 500 млн. даляраў. Пра гэта было абвешчана пасля чарговага раўнду кансультацый паміж нашым і кітайскім міністэрствамі замежных справаў. Сярод іншых мерапрыемстваў, што абмяркоўвалі прадстаўнікі абедзвюх краін, першыя месцы займаюць сумесныя праекты па зборцы ў Кітаі беларускай тэхнікі ды паляпшэнні якасці нашых матацыклаў з выкарыстаннем кітайскіх тэхналогій. Таксама ўвага прыцягвалася да будаўніцтва тэлевежы ў Мінску з удзелам кітайскага боку, які мае дастаткова вопыт і дасягнуў высокага ўзроўню ў гэтай галіне.

### Беспрацоўе набірае вагу

Цяпер у Беларусі налічваецца 109,3 тыс. беспрацоўных (паводле афіцыйных звестак). Службы занятасці насельніцтва зафіксавалі павелічэнне адпаведнага каэфіцыенту на 6,2% за першы месяц гэтага году ў параўнанні з папярэднім. Лідэры ў гэтым паказчыку – усходнія раёны Беларусі на мяжы з Расіяй. Па меркаванні экспертаў, гэта тлумачыцца менш развітай эканомікай усходніх рэгіёнаў. Што да суадносінаў паміж мужчынскай і жаночай долямі ў складзе беспрацоўных, дык першыя займаюць толькі 40%. Удзельная вага моладзі (да 32 гадоў) у агульнай колькасці беспрацоўных – 52%.

### АПК – спробы рэфармавання

Толькі на 96 самых стратных сельгаспрадпрыемствах з адабраных 276 (па 2-3 ад кожнага раёну з тых, што планавалася «падлячыць да 1 сакавіка») правялі неабходную працу па рэфармаванні. Па дадзеных Міністэрства сельскай гаспадаркі, на прыкладзе гэтых захадаў меркавалася выпрацаваць агульную тэхналогію рэфармавання для ўсіх стратных гаспадарак, якіх налічваецца каля 2 500. Супрацоўнікі міністэрства адзначаюць, што большая частка такіх гаспадарак абрала мадэль рэструктурызацыі шляхам далучэння да эканамічна стабільнай сельскагаспадарчай, прамысловай, перапрацоўчай альбо абслуговай арганізацыі. Таксама паведамілі, што з мэтай паспрыяць праграме рэфармавання ў найбліжэйшы час плануецца прыняць 4 законы: «Аб рэарганізацыі сельскагаспадарчых арганізацый», «Аб сельскагаспадарчай кааперацыі», «Аб дзяржаўным рэгуляванні АПК», «Аб асабістых падсобных гаспадарках».

### Электронныя карткі пачынаюць сур'ёзна непакоіць

Кожны 20-ты ўладальнік крэдытнай карткі за апошнія 12 месяцаў станавіўся ахвярай эканамічных зладзеяў, а ў кожнага 50-га былі скрадзены персанальныя дадзеныя ўладальніка. Даследаванне гэтай сітуацыі выявіла сур'ёзную занепакоенасць грамадскасці і прымусіла заклікаць да перагляду спосабаў правядзення электронных аперацыяў. Безумоўна, усё гэта негатыўна ўплывае на развіццё электроннай камерцыі ў інтэрнэце. Ужо сёння каля 7% аперацыяў на буйных камерцыйных сайтах не праводзяцца з прычыны падазрэнняў у махлярстве. Такім чынам, 18% спажыўцоў патрабуюць ад найбуйнейшых кампаній удасканалення захадаў па абароне крэдытных картак. Распрацоўкай такіх захадаў на сённяшні дзень займаюцца *VISA* ды *American Express*.

**Андрэй КАРПОВІЧ**

# Тэндэнцыя, аднак...

## Як вясна – дык інтэграцыя, ды кожны раз з тымі самымі вынікамі

*Чарговыя паседжанні Рады міністраў гэтак званай саюзнай дзяржавы адбываліся, адбываюцца і, хутчэй за ўсё, будуць адбывацца. Але дзяржавы, па словах яе бадай галоўнага завадатара А.Лукашэнкі – няма.*

Беларускія эксперыментатары, натрэніраваўшыся на калгасах шляхам далучэння іх адзін да аднаго, да сельгасхіміі, да заводу і ўсіх разам да вертыкаляў і дыяганаляў, вырашылі, што і наш край можна палепшыць шляхам узбуйнення. Пастанова аб далучэнні малога калгасу «Рынкава-сацыялістычная Беларусь» да калгасу «Вялікая Русь» пачала ажыццяўляцца. А вынікі?

Няма, і ніхто, здаецца, праз гэта не плача. Але ў чым прычына адсутнасці поспехаў у ганаровай справе славянска-азіяцкай інтэграцыі, чаму не атрымліваецца стварыць адзіныя органы кіравання гэтым геапалітычным новаўтварэннем.

Паводле тэорыі кіравання, і не павінна атрымлівацца. Бо кіраўнічы орган павінен быць адпаведны свайму аб'екту кіравання. І не проста адпаведны, а дастасаваны да аб'екта кіравання адназначна.

Ці спрабуем мы далучыць іхную газавую пліту да нашай тэлефоннай станцыі? Што, нагул ёсць падобнага і ўзаемазвязанага ў эканоміках, кіраваць якімі маюць намер з адзінага цэнтру пры захаванні поўнай самастойнасці.

Дапамагчы разабрацца мы папрасілі эканаміста, спецыяліста ў галіне кан'юнктурных даследаванняў Ларысу Уладзіміраўну Хмуровіч.

***– Што такое кан'юнктурныя даследаванні, і хто займаецца імі ў свеце ды ў нас?***

– Кан'юнктурныя даследаванні самыя розныя, але ўсе яны накіраваныя на вывучэнне эканамічнай актыўнасці ў розных галінах дзейнасці, бо мы вядзем гаворку менавіта пра эканамічную кан'юнктуру.

Сярод гэтых розных падыходаў існуе такі, як кан'юнктурнае апытанне. Апытваць даводзіцца і насельніцтва, і экспертаў – кіраўнікоў прамысловых прадпрыемстваў. Яны адказваюць на вельмі простыя пытанні, напрыклад: «За апошнія два месяцы вытворчасць прадукцыі (альбо ўзровень жыцця, калі пытанне да насельніцтва) палепшыўся, пагоршыўся, не змяніўся». За кошт масавасці апытання ягоныя вынікі праўдзіва адлюстроўваюць рэчаіснасць.

Апошні падыход, што да вывучэння эканамічных магчымасцяў і перспектываў, лічаць аптымальным у краінах Еўропы. Першымі сталі займацца апытаннямі ў Нямеччыне ў 1949 годзе.

Распрацаваў методыку і пачаў плённа выкарыстоўваць яе інстытут *IFO* з Мюнхена (Мюнхенскі інстытут эканамічных даследаванняў). І ўжо з 1961 году даследаванні вяліся на ўсім кантыненце пад каардынацыяй Еўрапейскай камісіі.

З пачатку 90-х гадоў мінулага стагоддзя да гэтай практыкі далучыліся Расія, Украіна, Казахстан, а з 1994 году і Беларусь.

Спачатку нашыя апытанні ахоплівалі спажывецкі сектар і прамысловасць. З 1999 году даследаванні спажывецкага сектару былі спыненыя. Цяпер праводзіцца толькі апытанне кіраўнікоў прамысловых прадпрыемстваў.

***– Ці параўноўваюцца Беларускія дадзеныя з дадзенымі па іншых краінах?***

– Дадзеныя беларускіх кан'юнктурных апытанняў друкуюць у перыёдыках і статыстычных зборніках Еўрапейскай камісіі. Нас аднеслі да групы краінаў, што знаходзяцца ў працэсе пераўтварэння. Цікавяцца нашымі вынікамі ў Навукова-даследчым інстытуце статыстыкі ў Кіеве і расійскім Інстытуце эканомікі пераходнага перыяду (яго ўзначальвае Я.Гайдар).

***– Вы падтрымліваеце з гэтымі структурамі сталыя кантакты?***

– Найбольш плённым можна назваць нашае супрацоўніцтва з маскоўскім ІЭПП, мы рэгулярна абменьваемся дадзенымі і метадычнымі навінамі. Такім чынам, расійскія індэксы прамысловай кан'юнктуры для нас адкрытыя.

***– На вашу думку, на думку вядомых вам расійскіх і еўрапейскіх спецыялістаў, ваганні гэтых індэксаў у Расіі і ў нас чым розняцца?***

– Да асноўных паказчыкаў для параўнання, якія мы рэеструем падчас апытанняў, варта аднесці: аб'ём вытворчасці, попыт, цэны, запасы гатовых вырабаў на складзе, узровень загрузкі прамысловых магутнасцяў і занятасць. Падкрэслю яшчэ раз: эксперты характарызуюць змяненні гэтых паказчыкаў не лічбамі дзяржаўнай статыстыкі, а словамі «вырас», «не змяніўся», «зменшыўся». Ніякія бухгалтарска-статыстычныя вымярэнні, такім чынам, не ўплываюць на вызначэнне тых тэндэнцыяў, што дамінуюць у паводзінах таго ці іншага паказчыка.

Пры параўнанні вынікаў беларускіх і расійскіх апытанняў адразу адзначаецца адсутнасць шчыльнай сувязі паміж імі. І калі працэсы і ў нас, і ў Расіі ідуць у адзін бок, то іхная хуткасць і чыннікі абсалютна розныя.

Напрыклад, тэмпы росту цэнаў у Расіі да крызісу лета 1998 году выразна зменшыліся, потым рэзка падскочылі, але калі сітуацыя нармалізавалася, з пачатку 1999 году пачало вяртацца скарачэнне тэмпаў. Тым часам на Беларусі назіраецца няўхільнае павелічэнне тэмпу аж да 1999 году, а потым пад адміністрацыйным уплывам – скарачэнне. Хаця цэны нашых вытворцаў прамысловай прадукцыі, паводле апытанняў, растуць удвая хутчэй за расійскія.

Што да попыту, ён вагаецца і ў нас, і ў Расіі. Але там цягам двух апошніх гадоў адзнакі экспертаў былі станоўчыя, а ў нас у аналагічны перыяд зафіксаваны толькі адмоўныя паказчыкі рознай ступені інтэнсіўнасці. Адпаведна ў нашай краіне больш прадпрыемстваў, на якіх увесь час растуць запасы гатовай прадукцыі на складах, тады як у Расіі гэты паказчык мае процілеглую тэндэнцыю.

І ўжо зусім адрозніваецца сітуацыя з забеспячэннем сыравінай і матэрыяламі. Гэта сапраўдныя пакуты айчынных прадпрыемстваў, тры чвэрці з якіх адчуваюць недахоп і праблемы з сыравінай і камплектацыяй, у Расіі такіх не болей за 2/5.

Прагнозы адносна занятасці ў Расіі з сярэдзіны 1999 году маюць станоўчы выгляд. Беларускія кіраўнікі, насупраць, прадбачаць неабходнасць скарачэння кадраў на сваіх прадпрыемствах.

Калі ж мы абагульняем згаданыя паказчыкі, у выніку падлікаў атрымліваецца індэкс прамысловага аптымізму, які комплексна характарызуе кан'юнктуру ў прамысловасці.

Цягам апошніх трох гадоў у Расіі гэты індэкс і падаў, і падымаўся. Але ўсё адбывалася ў межах станоўчых значэнняў ад (+3) да (+25). Для Беларусі, наадварот, характэрная ярка выражаная тэндэнцыя да паніжэння ад (–7) да (–34).

***– А ці можна заўважыць наш уплыў на Расію?***

– Заўважыць уплыў Беларусі на Расію сучасны ўзровень не дазваляе, бо частотнасць апытанняў і ахоп галінаў вытворчасці і прадпрыемстваў там значна большы за нашы. Ваганні ў расійскім паліўна-энергетычным комплексе – люстэрка нашых праблемаў. Рост расійскага ПЭК – рост нашых праблемаў. ПЭК Расіі расце, узмацняецца, мадэрнізуецца як сістэма прыватных карпарацыяў, іх кіраўнікі прымаюць самастойныя рашэнні, адказваюць на выклікі сусветнага рынку...

***– Вы згадалі загрузку вытворчых магутнасцяў і складскія запасы. Дынаміка гэтых паказчыкаў сведчыць пра магчымыя непрыемнасці ці поспехі?***

– У Беларусі істотных зменаў у загрузцы вытворчых магутнасцяў няма ўжо гады чатыры. Яны стабільна загружаныя ў сярэднім на 55% . Гэта відавочная прыкмета стагнацыі.

Калі ж мы разглядаем суадносіны паміж попытам, вытворчасцю і запасамі прадукцыі на складзе, то выяўляецца цікавая акалічнасць: у Расіі на змяненне попыту прадпрыемствы рэагуюць змяненнем запасаў гатовай прадукцыі, а потым, праз месяц-другі, – змяненнем аб'ёму выпуску. У Беларусі інакш, першае звяно ў гэтым ланцужку ўгледзець лёгка, а вось другое... Вытворчасць у нас значна слабей адгукаецца на скарачэнне попыту, бо адміністрацыйны ўціск накіраваны на павелічэнне аб'ёму выпуску.

Гэта сведчыць пра тое, што расійская вытворчасць збольшага рэагуе на сігналы рынку і ўлічвае іх у планаванні, а нашыя пакуль што пазбаўленыя магчымасці навучыцца гэта рабіць.

Такім чынам, стварэнне агульнага цэнтру кіравання асінхроннымі працэсамі – справа складаная. Выгаду такі цэнтр можа прынесці толькі таму, хто першы адчуе ваганні сусветнай кан'юнктуры на рынку сыравіны. Другі бок у гэтым выпадку апынаецца без магчымасцяў дыверсіфікаваць сыравінныя пастаўкі, звярнуцца да каго іншага па камплектуючыя, пашукаць альтэрнатыўных каналаў збыту сваёй прадукцыі.

Ёсць і яшчэ адно пытанне: ці настолькі ўжо падобныя расійцы з беларусамі, каб быць шчаслівымі пры аднолькавым падыходзе да кіравання імі? Але пра гэта іншым разам.

**Гутарыў Юзік ЛАБЭЦКІ**

# Нямодныя салдаты

*У Гродне сенсацыя – з павіннай прыйшоў дэзерцір, які ўцёк з вайсковай часткі ўлетку 1992 году. Дэзерцірства – з'ява не вельмі распаўсюджаная. А вось што да ўхілення ад прызыву на службу, дык гэта здараецца вельмі часта. У Гродне ў апошні – зімовы – прызыў не прыбылі на зборныя пункты каля 600 чалавек. Большасці з іх давялося ўсё ж апрануць шэрыя шынялі: іх прымусова даставілі ў ваенкаматы. Амаль 90 чалавек з апошняга прызыву лічацца ўцекачамі.*


Фота IREX/ProMedia

У вайсковага начальства свая арыфметыка. Адмінусаваўшы «прымусовых» прызыўнікоў, яно заяўляе, што астатнія амаль 80% пайшлі на службу «з ахвотаю». Няцяжка ўявіць, што шмат хто яшчэ пайшоў на службу без ніякага імпэту, папросту пабаяўшыся канфліктаваць з войскам. Дарэчы, «нез'яўленцаў», як правіла, караюць у адміністрацыйным парадку. У другой палове мінулага году каля 10 чалавек нават падпалі пад крымінальную адказнасць. Я перакананы, што каб начальства правяло ананімнае апытанне навабранцаў, дык лічбы ахвочых да службы значна зменшыліся б.

265 чалавек з апошняга прызыву, дарэчы, аказаліся непрыдатнымі да войска паводле стану здароўя. Можна пашкадаваць тых, хто ўсё ж мусіў ісці ў казарму. Не ведаю, як у сталіцы. А вось у нас у Гродне салдаты выглядаюць жахліва. Часта з імі сутыкаюся на вуліцы, глядзяцца яны ніякавата. Нагадаю, што сёння – XXI стагоддзе, час камп'ютэрнай тэхнікі, час інтэлектуалаў. А форма беларускай арміі – форма 1914 году амаль без зменаў. Для акопнай вайны былі зроблены кірзавыя боты і бруднага колеру шынялі. Адсталасць, архаічнасць войска ўзмацняюць пачварныя зімовыя шапкі, савецкія эмблемы з сярпом і молатам і адсутнасць пагонаў, замест якіх – толькі нашытыя падкладкі.

У траўні пад Масквой адбудуцца буйныя вучэнні, прысвечаныя 10-годдзю СНД. Са Слоніму туды накіроўваюць адну роту. Дык вось, вырашана ім пашыць добрае абмундзіраванне, бо ў цяперашнім сорамна будзе паказаць сваіх салдат за мяжою.

Для нашых генералаў Масква самы ўлюбёны горад. Мабыць, нездарма камандуючы «заходнім аператыўным камандаваннем» папрасіў павіншаваць праз радыё сваіх падначаленых расійскай патрыятычнай песняй. У ёй былі словы пра тое, што «*за нами Россия, Москва и Арбат*». Хоць і школьніку ясна, што беларускіх салдат трэба віншаваць песнямі пра «Беларусь, Мінск і праспект Скарыны». Нашае камандаванне дагэтуль лічыць сваё войска савецкім. Праз паўгоду яно збіраецца шырока адзначыць 60-годдзе 28-й савецкай арміі, якая пры распадзе СССР апынулася ў Гродне. Запросяць Громава – маскоўскага губернатара, які часова камандаваў гэтай арміяй.

Беларускай вайсковай традыцыі ў беларускай арміі не існуе. Затое вельмі культывуецца расійская і савецкая. У Слоніме, напрыклад, школьнікаў нядаўна прынялі ў піянеры! Піянерскія гальштукі ім павязалі ў салдацкім клубе. Каля вайсковага сцяга.

Час ідзе, розуму не большае.

**Сяргей МАКСІМОВІЧ**

# Мінску – мінскія тралейбусы

Аўтобусны філіял Мінскага аўтамабільнага заводу стаў пераможцам тэндэра на пастаўку 15 тралейбусаў Мінску на працягу 2002 году. Пра гэта БелаПАНу паведамілі ў Цэнтры грамадскіх сувязяў МАЗу.

Першы тралейбус МАЗ-103Т быў створаны ў 2000 годзе і ўпершыню паказаны шырокай публіцы ў жніўні 2000 году на Маскоўскай аўтамабільнай выставе MIMS-2000. З тае пары ён прайшоў увесь комплекс неабходных выпрабаванняў.

Жыхары беларускай сталіцы таксама паспелі ўжо ацаніць якасці тралейбуса з маркай МАЗ: у 2001 годзе на гарадскія маршруты выйшлі 9 такіх новых машын.

Паводле словаў спецыялістаў, тралейбус атрымаў у спадчыну ўсё лепшае ад сваіх «сваякоў» – аўтобусаў МАЗ. Гэта прывабны дызайн, мяккія або пластыкавыя сядзенні, нізкая пасадка салона, каразійная ўстойлівасць кузава, зручнасць у абслугоўванні і рамонце. У тралейбусе выкарыстоўваецца імпульсна-тырыстарная сістэма кіравання рухавіком, што забяспечвае плаўнасць пры наборы хуткасці, зніжае расход электраэнергіі. У сістэме органаў кіравання ў кабіне вадзіцеля выкарыстоўваецца напружанне 24 вольты, што павышае электрабяспеку; ніжэйшы і ўзровень электрамагнітнага выпраменьвання ў салоне.

У якасці адной з асноўных пераваг тралейбуса МАЗ спецыялісты вылучаюць яшчэ і той факт, што па вялікай колькасці вузлоў і агрэгатаў, а таксама па канструкцыі кузава машына уніфікавана з аўтобусамі МАЗ, што зручна для яе эксплуатацыі і абслугоўвання.

**Аляксей АРЭШКА**

# «Высоткі» лепш не будаваць

Упраўленне МНС па Брэсцкай вобласці занепакоена станам сродкаў супрацьпажарнай бяспекі ў высотных дамах Брэсту. У сувязі з гэтым камісіяй па надзвычайных сітуацыях рэкамендавана часова не будаваць шматпавярховыя дамы.

За 20 апошніх гадоў у Брэсце пабудавана 53 шматпавярховак. У іх прадугледжаны комплекс інжынерных супрацьпажарных канструкцый, аднак належнага абслугоўвання гэтага абсталявання няма. Ва ўсіх 53 дамах супрацьпажарная аўтаматыка і дымавыдаленне знаходзяцца ў такім стане, пры якім сістэма не можа выконваць свае функцыі ў поўным аб'ёме. За апошнія 6 гадоў у дамах павышанай павярховасці зарэгістраваны 31 пажар.

Да прывядзення дамоў у пажарабяспечны стан рэкамендавана размясціць у кватэрах аўтаномныя пажарныя паведамляльнікі, а таксама прыпыніць будаўніцтва ў горадзе жылых дамоў вышэй за 10 паверхаў. Зараз у горадзе ў незавершаным будаўніцтве такіх дамоў няма.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ**



# Скарбонка Кадафі

*Фінансавая імперыя лівійскага дыктатара – нерухомасці ў лонданскім Сіці, еўрапейская сетка гатэляў, долі ў* Banca di Roma. *З нядаўняга часу – і 5 працэнтаў турынскага «Ювентусу».*

Гэты чалавек – суцэльная правакацыя. Вярнуўшыся з брытанскай вайсковай школы «Сэндхерст» у верасні 1969 году, скінуўшы караля Лівіі Ідрыса і нацыяналізаваўшы міжнародныя нафтавыя кампаніі, Муамар Кадафі пры кожнай нагодзе спіраўся з вялікімі гэтага свету. Дзесяцігоддзямі ён даваў прытулак самым небяспечным тэрарыстычным групам з розных краін, навучаў і фінансаваў іх. Яго спецслужбы прычыніліся да змовы супраць егіпецкага прэзідэнта Анвара Садата, забівалі лівійскіх дысідэнтаў у Еўропе, праносілі бомбы на борт самалётаў – кампаніі «*PanAm*», які выбухнуў над шатландскім Локербі, ці машыны французскіх авіяліній *UTA*, што разбілася ў Афрыцы. Дэманстрацыйна напаўшы на італьянскі востраў Пантэлерыю, Кадафі застаўся адзіным, хто хоць калі асмеліўся пускаць ракеты супраць дзяржаваў *NATO*.

А цяпер гэты фундатар тэрарыстаў, гнаны амерыканскімі санкцыямі, аказаўся яшчэ і *homo ludens*. Праз інвестыцыйную фірму *Libyan Arab Finance Company* (*Lafico*) Кадафі набыў на пачатку году 5,3 працэнта акцыянернага капіталу турынскай каманды «Ювентус». Асалода правесці свайго першынца Аль-Саадзі, футбольнага маньяка-зацятага, у кіраўніцтва гэтага клубу, куды ўваходзяць, між іншых, галоўны акцыянер *Fiat*'у Дж'янні Агнэлі, каштавала Кадафі звыш 33 мільёнаў швейцарскіх франкаў.

Муамар Кадафі, ужо 33 гады як самазваны палкоўнік, кіраўнік Сацыялістычнай Народнай Лівійскай Арабскай Джамахірыі, творца кур'ёзнай марксісцкага-ісламскай рэвалюцыйнай і грамадскай дактрыны, з якою можна пазнаёміцца, прачытаўшы яго «Зялёную кнігу», не панёс адказнасці за сваю варожасць да Захаду. Мала таго, пасля налётаў на Сусветны гандлёвы цэнтр і Пентагон 11 верасня 2001 году, арганізаваных Усамам бін Ладэнам, гэты найстарэйшы паводле стажу афрыканскі дыктатар больш не лічыцца галоўным бандытам.



Толькі аднойчы, пасля выбуху бомбы ў берлінскай дыскатэцы *La Belle* і атакі на амерыканскую эскадрыллю ў міжнароднай паветранай прасторы над залівам Сідра, Вашынгтон адрэагаваў вайсковымі сродкамі. За выключэннем гэтага выпадку, асноўнай зброяй супраць лівійскага патрона тэрарызму заставаўся гаспадарчы ціск на яго рэжым.

Наколькі бясплённаю была гэтая палітыка, паказала 31 студзеня мінулага году, калі баявік з Локербі, Абдэльбасэт Алі Махамед аль-Мэграі, быў асуджаны ў Гаазе на сама менш дваццаць гадоў турмы. «*Толькі калектыўным самагубствам трое шатландскіх суддзяў маглі б адпакутаваць гэты ганебны вырак*», – такая рэакцыя ў тыповай для Кадафі манеры раздалася з Лівіі. Ніхто не звярнуў увагі на факт, што ўсяго праз некалькі гадзін Кадафі меў нараду з саудаўскім мільярдэрам, шэйхам Альваліды бен Талалем. Аравіец параіў лівійскаму правадыру, між іншым, купляць долі ў гатэлях, банках і канцэрнах сувязі.

Гэтую стратэгію Кадафі ўжывае яшчэ з 1976 году. Тады *Lafico* ўклала трохі больш як 400 мільёнаў даляраў у турынскі канцэрн *Fiat*, які перажываў цяжкія часы. Праз колькі год, каб пазбегнуць амерыканскіх санкцыяў, накладзеных на Кадафі, канцэрн адкупіў пакет акцыяў у лівійца за больш як тры мільярды даляраў – той выраст тым часам амаль да 15 працэнтаў капіталу «Фіята». Шэф *Lafico*, Махамед Алі Эль Хувэй, называе стратэгію для 8 мільярдаў даляраў лівійскіх дзяржаўных маёмасцяў, якімі ён кіруе, «вынаходніцкім інвеставаннем».

Дробныя пакеты акцыяў, фікцыйныя фірмы амаль ва ўсіх падатковых аазісах, непразіральныя для следчых канцэрны – з дапамогаю ўсіх гэтых трукаў *Lafico* паступова паглынула нерухомасці ў лонданскім фінансавым квартале коштам мільярд даляраў. Да гэтага трэба дадаць сетку гатэляў «Карынція» (яна распасціраецца ад Партугаліі да Турцыі, а зарэгістраваная на Мальце), 5-працэнтны ўдзел у італьянскім банку *Banca di Roma*, долі яшчэ ў 100 банках ад Нью-Йорку да Ганконгу і звыш 70 прадпрыемстваў у больш як 40 краінах, часткова – у стратэгічных сектарах.

Цягам гадоў Вашынгтон выявіў 103 прадпрыемствы, у якіх маюць долі лівійцы. Толькі 28 з іх апынуліся ў «чорным спісе».

– *Амерыканскія следчыя бачаць хіба толькі вярхушку айсбергу*, – заявіў з гордасцю Эль Хувэй у інтэрвію эканамічнаму агенцтву Bloomberg. – *Наша наступная мэта – Еўропа.*

Лондан зноўку завязаў дыпламатычныя стасункі з Трыпалі. Вашынгтон хоча як найхутчэй скончыць спрэчку аб кампенсацыі для ахвяраў тэракту ў Локербі. «*У будучыні*, – мяркуе эксперт па справах абароны Дж'янлюка Сардэльёнэ, – *Лівія будзе адыгрываць вырашальную ролю як сіла ахоўы парадку ў Афрыцы. Магчымасць уплыву на Трыпалі ўмацавала б пазіцыю Італіі ў саюзе краін Захаду*».

Кадафі, як і раней, не цэрпіць ніякай апазіцыі. Хто ў ягонай імперыі прагне ўскараскацца вышэй, у найлепшым разе ідзе ў адстаўку. Слабасць супраціву лівійскаму драконаўскаму рэжыму абумоўлена і тым фактам, што ў параўнанні з афрыканскімі і арабскімі братамі лівійцам жывецца даволі добра.

Сыны Кадафі, якія жывуць з фірмаў, што ўваходзяць у склад *Lafico*, не цешацца папулярнасцю. Іхні кепска зарэкамендавалі сябе не толькі ўва ўласнай краіне: у рымскім гатэлі яны па п'янцы разнеслі дыскатэку, ля сардынскай купальні для важных асобаў, *Poro Cervo*, швартуюць 40-метровую яхту «Че Гевара», а ў шыкоўным рэстаране *Billionaire* залазяць паням за дэкальтэ.

Каб утрымаць уладу, Кадафі не адступіць, напэўна, і перад тым, каб скончыць мядовы месяц з Захадам. Вяртанне ў «спіс ліхадзеяў» яго не пужае – пад Дамоклавым мячом заходніх санкцыяў таксама добра жывецца.

**Die Weltwoche**

# Маёмасць дачкі Ельцына

У дачкі першага прэзідэнта Расіі Таццяны два сыны – Барыс і Глеб. Цяпер Таццяна Барысаўна чакае трэцяе дзіця.

Кампанія яе другога мужа Аляксея Дзячэнкі «Белка Трэйдынг» апынулася ў цэнтры скандалу з «Бэнк оф Нью-Йорк» і адмываннем грошай «рускай мафіі». У снежні 1999 г. адхілены ад пасады генеральнага пракурора Юрый Скуратаў заявіў, што Таццяна Дзячэнка валодала інсайдэрскай (то бок канфідэнцыйнай) інфармацыяй і актыўна грала на рынку дзяржаўных кароткатэрміновых абавязанняў, зарабляючы вялізныя грошы. Маёмасць Т.Дзячэнкі, паводле некаторых ацэнак, раўняецца 180–200 млн. даляраў, уключна з нерухомасцю ў Заходняй Еўропе.

***«Собеседник»***

# Сцяг для Тыбету



Цёмна-чырвоны сцяг з залатым сонцам быў вывешаны на ратушах больш чым 120 чэшскіх і марaўскіх гарадоў і раёнаў. Сусветная акцыя «Сцяг для Тыбету» мае на мэце нагадаць пра 43-ю гадавіну крывавых тыбецкіх падзеяў. 10 сакавіка 1959 году кітайцы задушылі народнае паўстанне ў Тыбеце. У краіне былі праведзены выбары пад кантролем войска, а найвышэйшы тыбецкі прадстаўнік далай-лама мусіў эміграваць.

Да сусветнай акцыі ўпершыню далучылася Астрава. На тамтэйшым пляцы Масарыка людзі да таго яшчэ і накрэслілі агромністы сцяг Тыбету.

Тыбецкі сцяг з залатым сонцам не вывесілі ні на пражскім, ні на брнянскім магістрацe. У сталіцах Чэхіі і Маравіі да кампаніі далучыліся толькі асобныя раёны.

Упершыню акцыя «Сцяг для Тыбету» праводзілася ў Чэшскай рэспубліцы ў 1996 годзе. Сцягі тады вывесілі Горні Плана, Літамержыцы, Градзец-Кралаве і жыжкаўская ратуша ў Празе. У мінулым годзе далучылася ўжо 90 ратушаў.

# Найлепшы горад свету

Згодна са штогадовым аглядам міжнароднага кансультацыйнага агенцтва *William M. Mercer*, апублікаваным у панядзелак, найлепшы горад свету – Цюрых, паведамляе *Reuters*.

Складальнікі агляду 215 краін, які ўключае 39 розных крытэрыяў «жаданасці» гораду, сярод якіх палітычнае, эканамічнае, прыроднае і сацыякультурнае асяроддзе, адукацыя, транспарт, месцы адпачынку і забаў, прыйшлі да высновы, што на першым месцы знаходзіцца якраз гэты швейцарскі горад.



Другое і трэцяе месцы падзялілі між сабою Ванкувер і Вена.

Самым брыдкім горадам свету быў прызнаны Бразавіль у Рэспубліцы Конга, які заняў 215-е месца.

**Lenta.ru**

# Еўропа правінцыяў, а не дзяржаваў

**Анджэй РАПАЧЫНСКІ, Калумбійскі універсітэт Нью-Йорку**

*У той час як Еўрапейская канстытуцыйная канвенцыя збіраецца дзеля абмеркавання сур'ёзных пытанняў, датычных будучых установаў і ведамстваў еўрапейскай супольнасці, самы час задацца пытаннем: куды ідзе Еўропа? Або прынамсі сфармуляваць гэтае пытанне інакш: у якім напрамку было б разумным ісці для еўрапейскае супольнасці?*

Падзенне камуністычнага рэжыму прывяло да ўзнікнення некалькіх дзяржаваў у Еўропе. Ад савецкай акупацыі вызваліліся Эстонія, Латвія, Літва. Чэхаславаччына раздзялілася на дзве незалежныя дзяржавы. На месцы Югаславіі ўзніклі Славенія, Харватыя, Боснія, Сербія і Македонія; вельмі верагодна ўзнікненне ў хуткім часе самастойных Косава і Чарнагорыі. І хоць прыбалтыйскія рэспублікі ўсяго толькі аднавілі сваю незалежнасць, страчаную падчас Другой сусветнай вайны (прыгадаем, што распад Югаславіі суправаджаўся крывавымі падзеямі, як шмат якія іншыя войны за незалежнасць), ува ўсім гэтым ёсць нешта хвалююча новае.

80 гадоў назад, калі Вільсан, Клемансо і Лойд-Джордж фактычна перамалёўвалі мапу Еўропы, невялікія дзяржавы былі дысфункцыянальныя як у часе вайны, так і ў мірны час. Жыццяздольная дзяржава тады мусіла быць дастаткова вялікаю, каб пры патрэбе абараніць сябе, а таксама стварыць адносна незалежны, аўтаномны рынак.

Сёння ніводзін з гэтых фактараў не мае ранейшай значнасці. Пры наяўнасці перспектывы ўступу ў Еўрапейскі Саюз нацыянальныя рынкі страцілі ранейшую важнасць. Існаванне такіх арганізацыяў, як ЕС і *NATO*, зводзіць да мінімуму верагоднасць вайны паміж еўрапейскімі дзяржавамі – чальцамі гэтых арганізацыяў, бо на кожны напад нават на найменшую з краін *NATO* адказ дадуць усе краіны Альянсу. Пры адсутнасці такіх знешніх пагроз повязі, якія лучаць, скажам, чэхаў і славакаў (не кажучы ўжо пра сербаў і харватаў!), сталі занадта слабыя для існавання сістэмы кіравання агульнанацыянальнага ўзроўню.

Ці кажа нам гэта пра будучыню ўсяе Еўропы ў цэлым? Розніца паміж Чэхаславаччынай і Італіяй або Нямеччынай – гэта, па вялікім рахунку, розніца ў 50 гадоў. Урэшце, хіба да 1860-х гадоў Італія не была сукупнасцю каралеўстваў і княстваў? Хіба не было аб'яднанне Нямеччыны дасягнута «жалезам і крывёю»?

Францыя і Іспанія нашмат старэйшыя, але няўжо саюз баскаў, каталонцаў і карсіканцаў са сваімі нацыянальнымі дзяржавамі нашмат «шчаснейшы», чым колішні саюз чэхаў і славакаў? Ці існуюць сапраўды важкія прычыны на тое, што шатландцы і валійцы – частка таеж нацыянальнай дзяржавы, што і англічане?

Абстрагуймася на момант ад такіх паняццяў, як французскія, нямецкія або італьянскія нацыянальныя адметнасці, патрыятызм, супольныя ўспаміны пра вайну і праліццё крыві, якія цвёрда ўкараніліся ў свядомасці сённяшніх моўных супольнасцяў, і падумайма во пра што: нашто еўрапейцам патрэбны прамежкавы ўзровень кіравання, які стаіць паміж агульнаеўрапейскай структурай і мясцовымі ўстановамі і ведамствамі?

Нашто п'емонтцам, баварцам або шатландцам патрэбны прамежкавы нацыянальны бюракратычны апарат для кіравання іх падатковай палітыкай, сацыяльнымі праграмамі, рынкам кашто́ўных папер і збольшага бескарысными ўзброенымі сіламі, якія дублююць агульнанацыянальныя? Ці не было б жыццё лягчэйшым, калі б кіраванне агульным рынкам, валютай, знешняй палітыкай, узброенымі сіламі і некаторымі іншымі элементамі праводзілася на агульнаеўрапейскай аснове, тым часам як астатняе было б ускладзена на надзеленых большымі паўнамоцтвамі мясцовыя структуры?

Сёння модна пускаць жарцікі наконт бюракратычных элементаў агульнаеўрапейскай сістэмы кіравання. Але агульнаеўрапейская сістэма кіравання – проста драбніца ў параўнанні з кіпамі нацыянальных законаў і пастановаў, мільярдамі, якія сыходзяць на ўтрыманне палітычнае структуры, і гіганцкімі дзяржаўнымі машынамі, якія з'ядаюць да 30–40% валавога ўнутранага прадукту нацыянальных дзяржаваў Еўропы. Ці можа сітуацыя пры агульнаеўрапейскай дзяржаве быць горшаю, чым цяперашняя?

Сапраўды, стварэнне еўрапейскага федэральнага ўраду і скасаванне прамежкавых нацыянальных урадаў, магчыма, прывядзе да самай істотнай лібералізацыі эканомікі (і грамадства ў цэлым) за ўсю гісторыю Еўропы. Варта зірнуць на Амерыку 1787 году: стварэнне федэральнага ўраду знішчыла падобную да сённяшніх Балканаў сістэму дарэвалюцыйных калоніяў, паклаўшы пачатак эпосе прадпрымальніцкай экспансіі на ўвесь амерыканскі кантынент.

Просты факт палягае ў тым, што Еўропа адзначаецца занадта вялікай разнастайнасцю для таго, каб мог адбыцца захоп улады групамі людзей, аб'яднанымі супольнымі палітычнымі ці эканамічнымі інтарэсамі, як адбываецца цяпер у бальшыні нацыянальных дзяржаваў. Гэта толькі ў якасці *дадатковага* ўзроўню кіравання Еўрапейскі Саюз здаецца занадта цяжкою бюракратычнаю структурай. Калі б яна *замяніла* нацыянальныя ўрады, гэты цяжар падаўся б бязважкім у параўнанні з тым, што ісце сёння.

Самі нацыі таксама ствараюць перашкоды для канстытуцыйнага балансу ў Еўропе. Германія і Італія, напрыклад, проста занадта вялікія ў параўнанні з Партугаліяй і Бельгіяй (якая таксама становіць досыць сумнеўную сумесь фламандцаў і валонаў), і гэта стварае дысбаланс, нераўнамернае размеркаванне сілаў, якое нагадвае «цяжкі бот» Прусіі ў старой імперыі Бісмарка.

Ці можа федэральная Еўропа замяніць сённяшнія нацыянальныя дзяржавы і звязанае з імі пачуццё нацыянальнай прыналежнасці? Ці зможа француз або брытанец адчуваць сябе «як дома» ў Еўропе гэтаксама, як яны пачуваюцца ў сваіх краінах? Не зможа. А ці павінен? Пры абмеркаванні будучых еўрапейскіх структураў найцяжэйшы момант – супастаўленне нацыянальных адрозненняў і пачуцця агульнаеўрапейскай прыналежнасці. Але што, калі не глядзець на агульнаеўрапейскія структуры праз прызму нацыянальных? Што, калі эвалюцыя еўрапейскай свядомасці пойдзе не па ўзыходнай, то бок праз пераўтварэнне прыдатковых структураў у наднацыянальныя, а шляхам *перадачы лаяльнасці* і аддаджэння менш буйных, але больш значных супольнасцяў?

Вядома, скасаванне нацыянальных дзяржаваў – падзея ні блізкая, ані непазбежная, але не таму, што ідэя нацыянальнай дзяржавы глыбока сядзіць у свядомасці яе грамадзян. Нацыянальная прыналежнасць адносіцца да такіх паняццяў, абстракцыяў і клішэ, як раса, клас і іншыя ідэалагічныя парадженні, якія цяпер выраджаюцца.

Аднак нацыянальныя дзяржавы яшчэ не хутка знікнуць з мапы Еўропы, бо яны – *цэнтры ўлады*. У рэшце рэшт, за сорак цэнтаў з кожнага еўра валавога ўнутранага прадукту варта змагацца. Але калі еўрапейцы ўсвядомяць, у якім напрамку ім след рухацца, то, магчыма, з цягам часу паняцце нацыянальнай прыналежнасці, якое сфармавалася цягам апошніх пары соцень гадоў (можа крыху раней) стане чымсьці накшталт апендыксу – часткі чалавечага цела, у чые функцыі ўваходзіць не нашмат больш, чым рэдкія запаленні.

**© Project Syndicate, сакавік 2002**

# Ідэя марнатраўства

*Перавыданне школьных падручнікаў – працэс вельмі складаны і патрабуе грунтоўнага падыходу. Не так даўно гэтае пытанне стала для нас актуальным. У афіцыйнай прэсе ўсё часцей гучаць меркаванні, што неабходна поўная перапрацоўка ўсіх школьных кніг па гісторыі Беларусі і што ў падручніках па літаратуры выявілася шмат недахопаў. Гэтаму пытанню была нават спецыяльна прысвечаная нарада ў кіраўніка дзяржавы з удзелам міністраў адукацыі і інфармацыі, дзе абмяркоўваліся варункі і крытэрыі перавыдання школьных кніжак. Набліжаецца 20 сакавіка – тэрмін, да якога ўрадавая камісія прымае прапановы па напісанні новых падручнікаў.*




Фота Ул.ШЛАПАКА

Што стаіць за гэтым раптоўным імкненнем ураду памяняць змест школьных падручнікаў і ўнесці змены ў школьную праграму? Ці ёсць нейкія аб'ектыўныя прычыны для гэткіх рэформаў?

Вось што думаюць пра гэта некаторыя добра знаёмыя з праблемай беларускія дзеячы культуры.

**Лявон БАРШЧЭЎСКІ, намеснік дырэктара Нацыянальнага гуманітарнага ліцэю імя Я. Коласа, кандыдат філалагічных навук:**



За апошнія 10 год, калі ўзнікла магчымасць напісаць і выдаць новыя падручнікі, кожны, хто хацеў, іх напісаў і выдаў. Гэты працэс выявіў, што ў Беларусі не так многа спецыялістаў у гэтай сферы.

Акрамя таго, аб'ектыўнай патрэбы ў перавыданні я на сёння не бачу. Па гісторыі Беларусі існуюць два камплекты падручнікаў, якія прайшлі цэнзуру – урадавую камісію на чале з У.Замяталіным. Першы камплект, які распрацоўваў доктар гістарычных навук, прафесар М.Біч, вельмі добра, на маю думку, зроблены. На адну трэціну ён складаецца з метадычных парадаў. Для настаўніка працаваць з такім падручнікам – адно задавальненне. Другі камплект групы аўтараў на чале з гісторыкам Э.Загарульскім значна горшы ў метадычным плане. Але настаўнік можа выбраць найбольш зручны для сябе варыянт. Якія аўтары будуць пісаць гэтыя падручнікі зараз? Ахвотных, наколькі я ведаю, няма, здольных навукоўцаў таксама.

Цікавая сітуацыя з падручнікамі па літаратуры. Урадавая камісія зараз прапануе скараціць іх на трэць, з-за вялікага аб'ёму тэкстаў па мастацкай літаратуры. Гэта яны тлумачаць тым, што падручнік цяжкі, мае вялікі аб'ём і дзецям нязручна ім карыстацца. Сітуацыя недарэчная, калі падручнікі ацэньваюцца па вазе, а не па змесце. Самая вялікая небяспека тут у тым, што пад удар ставяцца сельскія школьнікі. Калі ў горадзе знайсці тыя ці іншыя літаратурныя творы – не праблема, то для вёскі скарачэнне аб'ёму хрэстаматыі – катастрофа. Нашыя сельскія школьнікі і так зорак з неба не хапаюць.

Сённяшніх ідэолагаў, тых, хто выказваецца за змену падручнікаў па літаратуры, на маю думку, цікавіць толькі адно – вынішчыць нашых пісьменнікаў з школьнай праграмы ці пакінуць зусім мала. Зрабіць беларускую літаратуру неканкурэнтаздольнай у параўнанні з расійскай, каб дзеці не паважалі, смяяліся з яе. Падобная сітуацыя з падручнікамі па дысцыпліне «Чалавек і свет».

Гэта вельмі непрадбачлівы крок, колькасныя прэтэнзіі зверху, а не ініцыятыва знізу. Кажуць, быццам бы бацькі наракаюць, што падручнікі цяжкія, але ніякіх сацыялагічных ці навуковых даследаванняў у пацверджанне гэтаму няма. Я не ведаю, каб праводзілася хоць адно апытанне бацькоў. Такім чынам, выяўляецца, што ніякіх навуковых перадумоваў для гэтых рэформаў няма. Рэзкія павароты ў гэтай сферы па сваёй сутнасці – злачынства.

Я думаю, што на выданне новых падручнікаў у сённяшняй улады не хопіць сродкаў. Трэба мець на ўвазе, што да кожнай кнігі дадаецца вучэбна-метадычны комплекс. На гэта таксама трэба грошы, і немалыя.

Усе гэтыя заявы – не што іншае, як непрафесіяналізм, хамства, палітычная замова. Некаму ў Маскве не падабаецца, што ў Беларусі існуе свая даволі цікавая педагагічная школа. І ўвесь гэты працэс мае на мэце загубіць чарговае пакаленне беларусаў. Авантура, адным словам, якая грунтуецца не на прафесійным, а на ідэалагічным падыходзе.

**Алена АНІСІМ, настаўніца, старшыня Мінскай гарадской арганізацыі ГА Таварыства беларускай мовы:**



Незразумела, што маецца на ўвазе пад зменай школьных падручнікаў. Напрыклад, мы маем матэрыялы для пятага класу па гісторыі, якія напісаныя вельмі навуковай мовай.

Калі размова ідзе пра тое, каб наблізіць падручнікі да школьнікаў, зрабіць іх больш поўнымі і зразумелымі – гэта адно, і гэта добра. Вельмі прыкра, напрыклад, што некаторыя імёны выбітных беларускіх дзеячаў цяпер і не згадваюцца ў падручніках па гісторыі. Я лічу, што іх неабходна дадаць. А калі ідзе пра тое, каб перапісаць гісторыю – гэта зусім іншае.

На маю думку, што да школьных падручнікаў – гэта доўгатэрміновая і складаная справа. Пры разглядзе гэтага пытання трэба абавязкова ўлічыць некалькі фактараў. Па-першае, трэба пытацца ў настаўнікаў, тых, хто працуе ў школе, каго паважаюць вучні. Яны лепш за астатніх ведаюць, што трэба змяніць у падручніках. Па-другое, даведацца, што думаюць бацькі, бо яны бачаць, як дзеці вучацца, што ім больш падабаецца і г.д. Падручнікі ж не самі сабою, гэта сапраўдны падручны матэрыял для дзяцей.

**Алег ТРУСАЎ, старшыня Таварыства беларускай мовы:**



Я лічу, што гэтае рашэнне вельмі своечасовае, і мы да яго добра падрыхтаваныя. Першыя падручнікі, што пісаліся дзесяць год таму, рабіліся похапкам, былі без ілюстрацыяў, напісаныя вельмі навуковай і незразумелай для дзяцей мовай. Нядаўна выйшаў ідэальны, на мой погляд, падручнік Генадзя Сагановіча «Нарыс па гісторыі Беларусі». Кніга напісана па-еўрапейску, цудоўнай мовай, добра ілюстравана, прыводзяцца розныя гістарычныя гіпотэзы. Цяпер мы чакаем, што З.Шыбека ў хуткім часе выдасць працяг гэтай кнігі. Кавалкі яго працы ўжо надрукаваныя ў «Голасе Радзімы» і часопісе «Спадчына». Я лічу, што за бліжэйшыя чатыры гады наўрад ці хто напіша лепш за Сагановіча і Шыбеку.

А для напісання новых падручнікаў сённяшняе кіраўніцтва дзяржавы не мае ні грошай, ні інтэлектуальных рэзерваў. Гэта абсалютна відавочна. Да таго ж 90% беларускіх гісторыкаў сёння падзяляюць нацыянальна-адраджэнскія погляды, і хто будзе пісаць пад цяперашнюю ўладу, невядома. Гэта ўсё папулізм і гаворка на публіку.

Вельмі істотная і вызначальная пазіцыя саміх настаўнікаў. Нашыя настаўнікі ўсё добра разумеюць, іх не абдурыш. А ў школу на кожны ўрок не прыйдзеш і не пракантралюеш, як кожны працуе. Я ведаю гэта па дзецях, якія прыходзяць да нас. Настаўнікі перадаюць ім свае перакананні, нават нягледзячы на тое, што напісана ў падручніку.

А кіраўніку дзяржавы я параіў бы не марнаваць грошай і сілаў на напісанне новых кніжак, а выдзеліць сродкі на перавыданне тых добрых, што ёсць.

***

Міжволі ўзнікае пытанне: чаму менавіта гісторыя і літаратура? Дзве асноватворныя дысцыпліны, якія закладаюць на ўсё жыццё падмурак свядомасці сапраўднага грамадзяніна і патрыёта. Жаданне перарабіць школьныя кнігі, якія пакуль яшчэ больш-менш захоўваюць арыентацыю на нацыянальныя каштоўнасці, лішні раз пацвярджае ненацыянальную палітыку ўраду. Сапраўдная матывацыя ўсіх гэтых рэформаў – гэта не клопат пра нацыянальную школу, а спроба адлучыць новае пакаленне беларусаў ад гістарычнай і культурнай спадчыны і такім чынам пазбавіць нацыянальнай свядомасці. Як сцвярджаюць эксперты, сродкаў на здзяйсненне гэтай задумы сённяшні ўрад не мае, але не надта гэта суцяшае, бо калі хто наверсе моцна захоча, дык зарплату настаўнікам не выплацяць, як было не аднойчы, а падручнікі наштампуюць.

**Ядвіга МАЦКЕВІЧ**

ЮСТЫЦЫЯ

# Аўтарскае права ў Беларусі

Беларускае заканадаўства ў галіне аўтарскага права – самае дасканалае сярод краін СНД. Такое меркаванне выказаў Сяргей Шабека – начальнік аддзелу аўтарскіх і сумежных правоў упраўлення права і міжнародных дагавораў Нацыянальнага цэнтру інтэлектуальнай уласнасці пры Камітэце па навуцы пры Савеце міністраў Беларусі. Паводле слоў С.Шабекі, Беларусь мае дасканалую заканадаўчую базу ў галіне абароны аўтарскіх правоў, якая адпавядае патрабаванням міжнародных дагавораў. Магчымасці, што прадастаўляе заканадаўства, дазваляюць рэалізоўваць і абараняць аўтарскія правы, і гэтыя магчымасці неабходна ў поўнай меры выкарыстоўваць на практыцы. Аднак, адзначыў спецыяліст, аўтары і карыстальнікі не да канца выкарыстоўваюць магчымасці беларускага заканадаўства, якое адпавядае патрабаванням міжнародных дагавораў.

Як паведаміў С.Шабека, Беларусь стала трэцяй краінай у свеце, якая ў 1998 годзе ратыфікавала дагавор Сусветнай арганізацыі інтэлектуальнай уласнасці па аўтарскім праве.

**Вольга АСІПЕНКА**

# Кіно развітваецца з вёскай

Па распараджэнні Івацэвіцкага райвыканкаму (Брэсцкая вобласць) у раёне закрыты ўсе сельскія кінаўстаноўкі; стаўкі кінамеханікаў скарочаны.

Рашэнне прынята з прычыны таго, што кінаўстаноўкі сталі нерэнтабельныя, маральна і фізічна састарэлі, на іх зрабілася немагчыма паказваць сучасныя фільмы. Кінаўстаноўкі перададзены сельскім саветам, якія могуць выкарыстоўваць іх на сваё ўпадабанне. У раёне засталіся тры кінатэатры – у Івацэвічах, а таксама ў вёсках Косаве і Целяханах. Без кінаўстановак засталіся трыццаць вёсак раёну.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ**

# 11 рублёў за рускую мову

Пераход з 1 сакавіка сталічнай службы даведкі дакладнага часу «0-88» з беларускай мовы на расейскую многіх менчукоў, мякка кажучы, здзівіў, а некаторых і абурыў. Бо вельмі ж усе прывыклі чуць, набраўшы «нуль» і дзве «васьмёркі», на другім канцы дроту «гадзіны» і «хвіліны». Цяпер тут «часы» і «минуты». Як мне, дык надта рэжа слых.

Чаму ж жаночы магнітафонны голас перажыў русіфікацыю? Супрацоўнікі Мінскай гарадской тэлефоннай станцыі тлумачаць гэта тым, што для мадэрнізацыі электроннай паслугі даведкі дакладнага часу была закуплена новая камп'ютарная праграма, якая нібыта мае толькі рускамоўныя гукавыя настройкі. Ці будзе гэтая праграма пераабсталяваная на беларускую мову, тэлефоншчыкі пэўнага адказу не даюць – «можа быць» і «праз нейкі час».

Хоць насамрэч зрабіць гэта абсалютна няцяжка – дакладны час у даведцы «0-88» да 1 сакавіка паведамляўся ж па-беларуску. У параўнанні са старой у новай праграме значная ноўшасць адна – гавораць яшчэ і дакладныя секунды на момант тэлефанавання. Няўжо ж нельга запісаць усё беларускай мовай? Хоць фармальна да рашэння кіраўніцтва Мінскай гарадской тэлефоннай станцыі не прычэпішся: у краіне ж білінгвізм у законе. Гэтак беларускую мову пакрысе з публічнага ўжытку і выжываюць. Не будзе дзіва, калі неўзабаве на расейскай мове пачнуць рабіць абвесткі ў цягніках метро.

Мажліва, беларуская мова вернецца на «0-88» пад ціскам мноства пратэстаў жыхароў Мінску, як на тое спадзяюцца ў Таварыстве беларускай мовы. Хоць мала верыцца, што апатычнае грамадства гэтае чарговае абмежаванне сферы ўжытку беларускай мовы асабліва ўзвярэдзіць. Яго можа ўсхваляваць хіба што падвышэнне коштаў, але яны растуць пахітраму пакрысе. Наўрад ці кагосьці абурыць і тое, што даведка дакладнага часу, перайшоўшы на расейскую мову, стала платнай.

**Кірэй МАНУЙЛА**

# Уганараванне часу

**Станіслаў Акінчыц. Залаты век Беларусі. Хабараўск, 2002**




У продаж паступіла кніга, якая найперш інтрыгуе сваёй назвай – «Залаты век Беларусі». На дадатак падарункавы фармат і вытанчанае афармленне вылучаюць гэтую кнігу з шэрагу навуковых і навукова-папулярных выданняў апошняга часу.

Няшмат у нашай гісторыі перыядаў, да якіх пасуе акрэсленне «Залаты век». У літаратуры дзеля вобразнасці так прынята называць скарынаўскія часы, наагул усё XVI стагоддзе як перыяд, асветлены праявамі Рэнесансу ўва ўсіх сферах жыцця – ад кніжнай справы да росквіту адукацыі і будаўніцтва палацаў у італьянскім стылі. Між тым усё залежыць ад пункту гледжання. Прыкладам, праваслаўная царква ў Беларусі лічыць тое самае XVI стагоддзе сваім «чорным векам», бо страціла тады мноства ўплывовых фундатараў, а пад канец стагоддзя ўвогуле апынулася на мяжы знікнення. Для гэтага былі важкія падставы, але тут варта падкрэсліць, што храналагічнае пазначэнне пэўнага культурнага феномену як «Залатога веку» на шкале часу неабавязкова супадае з усімі іншымі з'явамі, якія навука можа лічыць «залатымі».

Вартасць кнігі С.Акінчыца ў тым, што ён разглядае «Залаты век» Рэфармацыі ў Беларусі, і такое акрэсленне гэтага сегменту нашай гісторыі (другая палова XVI стагоддзя) сапраўды адпавядае яго гістарычнай значнасці. Разняволенне ад феадальных догмаў чалавечага духу, якое пайшло з першых скарынаўскіх выданняў, прасочваецца ў справах і духоўным жыцці вядомых тагачасных асобаў. Найбольш увагі атрымаў Мікалай Радзівіл Чорны, які здолеў за вельмі кароткі тэрмін паставіць пратэстанцтва на адну ступень з традыцыйнымі канфесіямі. Аўтар асвятляе вынікі гэтай падзеі: хуткае павелічэнне колькасці мястэчак і гарадоў з самакіраваннем, нараджэнне цікавасці да кнігі і навукі, станаўленне школьнай справы, выпрацоўку літаратурнай мовы, новае юрыдычнае мысленне ў шырокіх колах шляхты, якое дазволіла існаванне соймікаў і г. д.

Рэфармацыйны рух у Беларусі разглядаецца ў агульнаеўрапейскім кантэксце, праз жывыя кантакты асобаў, якія змушаны рэагаваць на галоўнае бедства свайго часу – на войны. Можна пагадзіцца з аўтарам, што выпрабаванні, якія выпалі на долю пратэстанцкіх цэркваў у XVI і XVII стагоддзях, мелі першапрычынай цяжкія для Беларусі вынікі Лівонскай вайны, у першую чаргу гэта – Люблінская унія і праўленне шведскага прыхільніка езуітаў Жыгімонта Вазы, які быў абраны на караля і Вялікага князя пасля смерці Баторыя.

Гэтая вядомая з гісторыі лінія каментуецца шырокім дакументальным матэрыялам, што надае аўтарскай канцэпцыі пераканальнасць. Аматарам беларускай даўніны, неабыякавым да праблемы «Залатога веку», знаёмства з кнігай прынясе нямала прыемных адкрыццяў ды духоўнага асэнсавання нашай мінуўшчыны.

**Алена КАЗАКЕВІЧ**

## Фенаменальны правал беларусаў ва УЕХЛ

Усе тры беларускія хакейныя клубы, якія трапілі ў чвэрцьфінал розыгрышу кубка Усходнееўрапейскай хакейнай лігі, з трэскам з яго вылецелі. Спачатку гродзенскі «Нёман» умудрыўся саступіць аўтсайдэру УЕХЛ, маскоўскаму *МГУ*, пасля ХК «Гомель» двойчы па булітах прайграў сваім сапернікам з кіеўскага «Беркута», а ўрэшце мінскі «Керамін» двойчы саступіў дома ХК «Рыга» толькі пры адной перамозе ў гасцях. Цяпер аматарам прыстойнага хакею з удзелам айчынных хакеістаў застаецца чакаць Чэмпіянату свету па хакеі ў другім дывізіёне, які распачнецца 12 красавіка, і зноў спадзявацца на легіянераў, што гуляюць у Расіі.

## Панкоў-старэйшы стаў ахвярай нашай галечы?

Непрыемная вестка прыйшла з алімпійскага Солт-Лэйк-Сіці. Допінг-проба беларускага хакеіста Васіля Панкова, якую ўзялі пасля гульні за трэцяе месца з Расіяй, дала станоўчы вынік на 19-норандрастэрон. (З дасведчаных крыніц стала вядома, што і паўторны аналіз Васіля Панкова даў вынік аб наяўнасці ў ягоным арганізме допінгу). Панкова-старэйшага (у зборнай ёсць яшчэ яго малодшы брат Зміцер) напэўна дыскваліфікуюць. Беларус, які цяпер гуляе ў нямецкім клубе «Аўсбург», не зможа гуляць ні за клуб, ні за беларускую зборную на першынстве свету ў групе «Б», што пройдзе ў красавіку ў Нідэрландах.

Рэчыва, якое знайшлі ў арганізме Панкова, тое ж самае, што было выяўлена на Алімпіядзе ў нашай прадстаўніцы ў шорт-трэку Юліі Паўловіч. Але калі ў Паўловіч норма была перавышаная ў 300 разоў, то ў Васіля «ўсяго» ў 85.

Гэтак чарговы раз выявілася беларуская праблема адсутнасці на радзіме допінг-лабараторыяў. Каб арганізаваць такую лабараторыю, трэба паўтара мільёна даляраў, якіх у беларускага спорту няма. Таму нашыя спартсмены і далей будуць выпраўляцца на спаборніцтвы неправеранымі.

Вось як пракаментаваў падзеі вакол нашага хакеіста чыноўнік з Федэрацыі хакею Беларусі: «Я не буду даваць вам ніякіх каментароў, і ніхто не будзе. Бо і так усё на ўзроўні плётак дзякуючы газетам, а тут яшчэ вы са сваімі званкамі».

**Аляксей СТАЎСКІ**

## Тэлефон даверу супроць дзедаўшчыны

Для барацьбы з дзедаўшчынай у Войску польскім стварылі спецыяльны тэлефон даверу, карыстацца якім прапануецца салдатам, што сталі ахвярамі неўстаўных адносінаў, і сваякам вайскоўцаў, якія ведаюць пра выпадкі здзекаў з маладых салдатаў. Тэлефон даверу працуе з 1 лютага, і за гэты час праз яго ў Міністэрства нацыянальнай абароны звярнуліся каля 200 чалавек. Спачатку з салдатамі і іх сваякамі гутарыць ваенны юрыст, які можа звязаць іх пры патрэбе з псіхолагам і падключыць да справы супрацоўнікаў ваеннай жандармерыі, што займаецца барацьбой са злачыннасцю ў арміі.

Паводле спецыяльнага загаду нумар тэлефону вывесілі на відавоку ва ўсіх казармах, асабліва ў тых падраздзяленнях, дзе шмат маладых салдат, асноўных ахвяраў дзедаўшчыны. Тэлефонная лінія працуе з васьмі гадзін раніцы да васьмі вечара.

Каля 60 званкоў зрабілі сваякі салдатаў. Некалькі разоў патэлефанавалі тыя, хто ўжо адслужыў, распавялі пра тыповыя спосабы, што выкарыстоўваюцца ў казармах для здзекаў з маладых салдатаў, і прапанавалі сваю дапамогу.

З некалькіх вайсковых часцей звярнуліся маладыя вайскоўцы і папярэдзілі, што ў іх падраздзяленні «дзяды» маюць намер правесці «прапіску» маладых, што звычайна звязана са збіццём і маральным прыніжэннем. Прадстаўнікі ваеннай жандармерыі выязджалі на такія сігналы, разбіраліся на месцы і зрывалі «мерапрыемствы».

У адпаведнасці з польскімі законамі, за здзекі з вайскоўцаў вінаватыя могуць атрымаць да пяці гадоў турмы. Калі ж яны нанеслі шкоду здароўю маладых салдатаў, пакаранне можа скласці да 10 гадоў зняволення. У студзені ў Польшчы скончыўся судовы працэс, у выніку якога пяць «дзядоў» адправілі за краты на два з паловай гады.

**Аляксей КАРЦАЎ**

## Рэкамендацыі індыйскіх лекараў

З гадамі ў арганізме чалавека адбываюцца змены ў абмене рэчываў, і печань можа настолькі перагрузіцца, што страціць здольнасць выводзіць таксіны з арганізму. У выніку на твары і целе з'яўляюцца карычневыя плямы, падобныя да вялікіх вяснушак. Плямы фармуюцца гадамі, і каб пазбавіцца іх, таксама патрэбны час.

Якую ж дыету рэкамендуе Манухар? Перш за ўсё трэба адмовіцца ад салодкага, кафеіну, алкаголю, тытуню і няякаснага харчавання.

Рэкамендуецца таксама менш спажываць смажанага і прадуктаў, прыгатаваных у фрыцюры, бо моцна нагрэты алей утрымлівае шкодныя для скуры рэчывы.

Для захавання здаровай скуры пажадана ўзбагаціць дыету гароднінай і садавінай і спажываць іх пераважна сырымі. Для насычэння арганізму каліем рэкамендуецца рэгулярна есці бананы, бульбу, соевыя бабы, гарбуз і шпінат. На бэта-карацін багатыя морква і манга.

Надта неабходны арганізму вітамін Е, які ёсць у міндалі, у зярнятках сланечніка, арэхах кеш'ю, арахісе, а таксама ў алеі, у прыватнасці соевым.

Вітамін Е – антыаксідант, ён замаруджвае старэнне скуры і спрыяе рэгенерацыі яе тканак. Вітамінам С арганізм забяспечваюць цытрусавыя, папая і вінаград.

Для здароўя скуры карысны таксама цынк, крыніца якога – мяса і птушка.

**Ніна БУРАКОВА**

# Алкаголікі – проста звяры

*Чамусьці лічыцца, што толькі чалавеку ўласціва аддавацца розным заганным схільнасцям, у тым ліку і такой старажытнай, як п'янства. Мы сапраўды п'ём шмат і ахвотна: і з гора, і з радасці, і з прычыны, і без... Аднак цяга да моцных напояў – гэта прэрагатыва не толькі чалавека: у п'янстве заўважаны самыя розныя прадстаўнікі фауны і нават флоры.*



Фота Ул. ШЛАПАКА

Натуральна, часта ў тым, што жывёлы пачынаюць піць горкую, вінаватыя самі людзі. Асабліва калі размова ідзе пра няшчасных свойскіх гадаванцаў, якіх спойваюць ці то дзеля забавы, ці то таму, што іх гаспадарам-алкашам больш піць няма з кім. Нярэдка сабутэльнікамі п'яніцаў робяцца сабакі. Зрэшты, часам іх спойваюць не гаспадары, а староннія людзі. Так, у паселішчы Нагорску аднойчы здарылася такая гісторыя: сабака па мянушцы Джон чатыры гады верай і праўдай служыў свайму гаспадару-паляўнічаму, але раптам стаў кудысьці ўвесь час знікаць, вяртаючыся пасля «вандровак» у досыць дзіўным стане. Прасачыўшы за Джонам, узрушаны гаспадар высветліў, што той бегае да віннай крамы і, зазіраючы людзям у вочы, чакае, пакуль хто-небудзь не нальле яму ў бляшанку. Урэшце гаспадару сабакі-выпівохі прыйшлося шукаць спецыяліста па кадзіраванні. Але ахвярамі людской сваволі былі і больш экзатычныя жывёліны. Добра вядомая гісторыя пра асла, якога ягоны гаспадар, амерыканскі фермер, прывучыў да піва. Піўным алкаголікам стаў і пінгвін, якога прыводзіў з сабою ў бар супрацоўнік заапарку з англійскага гарадка. П'яніцамі пад уплывам людзей рабіліся казлы, коні і мядзведзі. Дарэчы, з гэтым бязладдзем спрабавалі змагацца на самым высокім узроўні: вядома, што існаваў царскі загад, які строга забараняў піць і паліць у прысутнасці паляўнічых сокалаў, каб птушкі не пераймалі ад людзей шкодных звычак.

Аднак далёка не заўсёды ў схільнасці жывёлін да «зялёнага змія» былі вінаватыя людзі. Аказваецца, браты нашы меншыя і самі майстры выпіць, прычым без усялякай навукі. Рэч у тым, што ў прыродзе шмат якія расліны ўтрымліваюць той ці іншы працэнт цукру, які пры спрыяльных умовах можа пачаць брадзіць, утвараючы нешта накшталт брагі. Якраз гэты сок і прыцягвае жывёлаў. Індыйскія совы любяць хмельны сок пераспелых яблыкаў і, напіўшыся яго, засынаюць п'яным сном. А аднойчы арнітолаг Дэвід Норман з Ліверпульскага ўніверсітэту знайшоў у сваім садзе драздоў, паводзіны якіх розніліся ад звычайных. Даследчыку без цяжкасцяў удалося злавіць іх голымі рукамі – птушкі захмялелі, бо надзяўбліся яблыкаў, сок якіх пачаў брадзіць. Арнітолаг вырашыў правесці серыю доследаў па ўплыве алкаголю на гэтых птушак. Аказалася, што дразды ўвогуле схільныя да спажывання алкаголю, але затое хутка цверазеюць.

Часам неадольную цягу «прыняць на грудзі» выяўляюць пчолы. Як трапна заўважыў энтамолаг з Аўстраліі Эрал, які назіраў за паводзінамі п'яных пчол, яны цалкам губляюць «пачуццё адказнасці за свае дзеянні» і замест таго, каб збіраць мёд і пылок, лётаюць «пахмяляцца». Знаходзілі сабе выпіўку пчолкі ў кветках: пад уздзеяннем розных фактараў нектар у кветках ператвараўся ў алкаголь. А вучоныя з Аклахомскага ўніверсітэту пад уражаннем распаведаў энтамолага нават пайшлі на такі эксперымент. Яны далі пчолам на выбар цукровы раствор і 80%-ны спіртавы напой. Паддоследныя, не думаючы, аддалі перавагу апошняму. Высветлілася, што п'яныя пчолы не могуць перасоўвацца на вялікія адлегласці, робяцца нязграбнымі і ўносяць бязладдзе ў жыццё цвярозых суродзічаў.

Мухі і прусакі аддаюць перавагу мацнейшым напоям, напрыклад, партвейну. У пакінутым на ноч сподку з пітвом раніцою можна знайсці шмат ахвяраў алкагольнага атручэння. Любяць «заклaсці за каўнер» і пяшчотныя матылькі: яны ліпнуць да пладоў, у якіх сок перабрадзіў, і ловяць кайф.

Але калі ад п'яных птушак і насякомых асаблівай шкоды нікому няма, то хмельных буйных прадстаўнікоў жывёльнага свету варта сцерагчыся. Некаторыя афрыканскія плямёны ведаюць здавён: няма нічога страшнейшага за нецвярозага слана! Дарэчы, гэтыя жывёліны самі гатуюць сабе выпіўку. Яны зграбаюць у яміну ўсю магчымую трапічную садавіну і закідваюць яе лісцем і травой. Калі маса пачынае брадзіць, сланы прыходзяць да гэтага месца і паглынаюць яе. П'яныя сланы без мэты блукаюць па лесе, голасна бубняць і буяняць. Нярэдка яны разбураюць хаціны мясцовых жыхароў. Зрэшты, калі сланы лянуюцца займацца самагонаварэннем, яны з тым самым поспехам ядуць плады дрэва мерулы, якое ў саспелым стане ўтрымлівае п'янкія рэчывы.

А вось жырафы, як сказалі б наркалагі, – запойныя п'яніцы. Звычайна даўгашыя не дакранаюцца да дрэваў, у лістах якіх ёсць алкалоіды. Але ў пэўны сезон яны накідваюцца на гэтыя лісты, ядуць іх і п'янеюць.

Малпам цяга да спіртнога часамі каштуе свабоды. Ведаючы гэтую слабасць прыматаў, мясцовыя паляўнічыя ідуць у лес, маючы з сабою вялізны бітон з півам і некалькі келіхаў. Навідавоку ў малпаў яны робяць некалькі глыткоў, затым сыходзяць недалёка ў лес і хаваюцца ў кустах, назіраючы за жывёламі. Малпы адразу ж спускаюцца, абкружаюць бітон і пачынаюць п'янстваваць. Оргія цягнецца да той пары, пакуль п'яныя звяры не валяцца на месцы і не засынаюць. Паводле назіранняў біёлага з Тэхаскага ўніверсітэту Роберта Далі, афрыканскія прыматы часам з упартасцю шукаюць пераспелую садавіну, у якой бражэнне ўжо пачалося, і ядуць яе. Навуковец выказаў меркаванне, што алкаголь, што ўтрымліваецца ў гэтых пладах, спрыяе прадухіленню сардэчных захворванняў у гарылаў, шымпанзе і арангутангаў.

Пра п'янства свіней, кароў, свойскіх гусей і качак можна і не расказваць – гэтыя вельмі ахвотна спажываюць на фермах адкіды вінаробства. Але вось уявіць сабе, што выпівохай можа стацца расліна... І тым не менш гэтаму ёсць канкрэтны прыклад. Плюшч на сцяне аднаго з будынкаў Оксфардскага ўніверсітэту прарос цераз цокальнае вакно ў склеп. Бярозка пратачылася праз шчыліну ў бочку з віном і высмактала яе да донца. Прычым алкаголь абсалютна не зашкодзіў расліне. Дарэчы, кажуць, што невялікая колькасць каньяку можа ўваскрашаць прывялыя кветкі. А вы кажаце, што людзі – непапраўныя п'яніцы... Самы час мяняць выслоўе «напіўся як шавец» на «насмактаўся як плюшч».

**Вадзім САМАКАТАЎ**

# Пакуты Кармэн

У кіеўскім балеце на лёдзе недзе ў канцы 80-х паставілі «Кармэн». Спектакль удаўся і карыстаўся вялікім поспехам. Асабліва падабалася гледачам трагічная развязка, калі раўнівы Хасэ забіваў вольналюбную цыганку і шпурляў яе вобземлю... Праўда, вобземлю – гэта толькі на словах. Насамрэч фігурыстка, што выконвала гэтую ролю, як мае быць ляпалася аб лёд.

Прафсаюзны сход пастанавіў забітую Кармэн на лёд апускаць пяшчотна. Траўмаў не стала. Але засталіся прастуды – якаво ляжаць на лёдзе разгарачанай і фактычна раздзетай артыстцы, пакуль Хасэ выконваў танец пасмяротных мукаў, а потым ужо, поўны раскаяння, вяртаўся да астылага цела каханай? І хай сабе ён вяртаўся ўсяго праз колькі хвілін, але і за гэты час беднае дзяўчо на лёдзе магло папраўдзе ператварыцца ў халодны труп. Вядома, гэта ўзмацніла б рэалізм пастаноўкі, але ў краіне, дзе ў тыя часы і аднаразовых шпрыцоў не было, дзе ўжо набрацца аднаразовых Кармэн?

...Пасля таго, як абедзве асноўныя Кармэн забюлетэнілі, прафсаюзны сход пастанавіў складзіраваць нябожчыц на нечым цёплым. Выконваючы пастанову, чацвёра тарэадораў перад забойствам скідалі разам свае плашчы на месца злачынства. Хасэ скакаў з ахвяраю танец смерці, заганяў у яе кінжал, пасля чаго меўся ўсклaсці цела на смяротнае ложа і прыступіць да далейшых пакутаў. Але паспрабуй ты на хуткасці, ды пад музыку, трапіць партнёркаю ў той смяротны одр! Таму Хасэ доўга вырульваў з забітаю Кармэн на руках і, баючыся пераляцець цераз плашчы, «прылядняў» партнёрку, дзе трапіцца. Далей пражэктары наводзіліся на яго, адцягваючы ўвагу публікі, а пакуль ён скакаў танец пасмяротных мукаў, зарэзаная Кармэн, мацюкаючы забойцу, паўзла ўзлегчы на плашчы. Калі ж яна апынулася на месцы і прымала адпаведную смяротную позу, на яе наводзіўся адзін з пражэктараў, і Хасэ, таксама асветлены, нёсся да каханае – ужо аплакваць.

Але аднойчы ці то Кармэн забавілася, ці то асвятляльнік паспяшаўся, але калі ён навёў пражэктар на плашчы, цыганкі там не аказалася. Ён пачаў шнарыць промнем па лёдзе, нібы шукаючы варожы самалёт у небе. І такі знайшоў яе, і асвятліў ёй шлях да смяротнага ложа.

Лёгка сабе ўявіць: гучыць неўміручая музыка Бізэ; забітая, але палкая (ужо ад холаду) Кармэн па-пластунску паўзе па лёдзе, выхапленая пражэктарам; вакол яе выпісвае піруэты Хасэ, нецярпліва чакаючы канца яе падарожжа, каб прыпасці да астылага цела каханай.

Але ўявіць сабе, што пры гэтым дзеялася з публікай, – нашмат цяжэй!

Галоўны рэдактар **Павел ЖУК**

© НАША СВАБОДА. Спасылка на газету НАША СВАБОДА абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі
Адрас: г.Мінск, вул. Рафіева, д.25, корп.1. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г. Заснавальнік Зміцер Жук.
Выдавец – рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА. E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка на паліграфічным РУП «Чырвоная звязда»
220073, г. Мінск, Першы загарадны завулак, 3. Заказ №1132 Нумар падпісаны ў друк 12/03/2002 (15:00) Наклад – 7.760